

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 10(93) Кастрычнік 2001 October Год выд. 9.


# Як зьменіцца міжнародная палітыка пасля 11 верасня

### Некалькі відавочных высноваў пасля тэрактаў у ЗША.

11 верасня 2001 года тэрарыстамі была пастаўлена апошняя кропка ў колішнім процістаянні паміж Захадам і Усходам. "Процістаянні", што апошнія гады было нейкім надуманым, "кніжным" -- для патурання ідэалагічных патрэб і комплексаў уласнага электарату -- што ў Расіі, што ў ЗША. Выбухі ў ЗША з усёй выразнасцю паказалі адказным палітыкам, што Поўначы (Паўночнай Амерыцы, Еўропе, Расіі і Японіі) няма чаго дзяліць паміж сабой. Яны стаяць на адным баку барыкадаў, новых барыкадаў. Праблемы апошніх гадоў у адносінах паміж Захадам і Расіяй (пашырэнне НАТО, дамова аб Супрацьракетнай абароне) на фоне 11 верасня выглядаюць неістотнымі пытаннямі ўчарашняга дня. Зараз намячаецца процістаянне паміж Поўначчу і Поўднем, паміж цывілізаваным светам і сіламі бязлітаснай і бессэнсоўнай помсты.

Выбухі ў Амерыцы выклікаюць зразумелае пачуццё салідарнасці з ЗША ў еўрапейцаў I цывілізаваных людзей ва ўсім свеце. Часова адыдуць у бок праявы вульгарнага і часам карыкатурнага антыамерыканізму, калі еўрапейскія інтэлектуалы пагардліва бэсцяць амерыканскія фільмы і гамбургеры. Такі "кухонна-кіношны антыамэрыканізм", урэшце, нікому не замінае ў тым выпадку, калі еўрапейцы стратэгічна разумеюць, наколькі яны малаабаронены перад наступам сіл зла і анархіі. Наколькі зараз неабходна агульная еўраатлантычная еднасць, еднасць, урэшце, усёй хрысціянскай цывілізацыі.

У вежах-блізнятах, відавочна, загінулі ня толькі амерыканскія грамадзяне, там знаходзіліся офісы многіх еўрапейскіх і японскіх кампаній. Такім чынам, тэракты ў Амерыцы -- гэта вайна супраць усяго цывілізаванага свету. Вайна без аб'яўлення мэтаў і ўмоваў. Тэрарысты, заўважым, не вылучалі аніякіх патрабаванняў. Іхні акт – гэта своеасаблівая заява, пракламацыя, проста акт нянавісці. На фоне падзей у Нью-Йорку можна спадзявацца, што бліжэй да Захаду пасунецца і Расія. Зрэшты, каментатары ГРТ ужо кажуць, што "мы адзіная цывілізацыя". Магчыма, падзеі ў Нью-Ёрку часова адсунуць назад, здымуць з парадку дня пытанне пра адмену дамовы па Супрацьракетнай абароне. Магчыма, будзе перагледжана і праграма СОІ, што патрабуе даволі вялікіх выдаткаў, якія зараз будуць патрэбны на аднаўленне страт пасля тэрактаў. Зрэшты, павінна зьмяніцца і пазіцыя Расіі да іракскага, лівійскага і іншых адыёзных рэжымаў.

Я таксама спадзяюся, што еўрапейскія дзяржавы -- найперш Англія і Францыя – таксама скаардынуюць свае, на маю думку, занадта ліберальнае стаўленне да мусульманскіх супольнасьцяў ва ўласных краінах. Этнічныя групоўкі ў заходніх краінах карыстаюцца ўсімі свабодамі і дабротамі ліберальнай цывілізацыі і разам з тым працягваюць жыць па ўласных, часам варварскіх звычаях. Ёсць людзі (не істотна, якой нацыянальнасці I веравызнання), якія паспяхова інтэгруюцца ў заходняе грамадства, а ёсць тыя, што жывуць на Захадзе і выкарыстоўваюць дэмакратыю і свабоду для барацьбы з тым жа Захадам, зьяўляюцца грамадзянамі ЗША і еўрапейскіх краін і разам з тым ненавідзяць гэтыя краіны. Відавочна, што тэракты ўчынілі тыя, хто даўно і легальна жыве ў ЗША (магчыма, і грамадзяне краіны) -- у прыезджых не было б столькі магчымасцяў для падрыхтоўкі. Якой дзяржаве патрэбны нелаяльныя грамадзяне, якія марацьтолькі зруйнаваць гэтую дзяржаву? Лагічна чакаць узмацнення правіл міграцыі ў Злучаныя Штаты, а таксама выдачы візаў.

Часам, калі на нейкіх форумах у Інтэрнэце дыскутуеш з антыамерыканістамі і задаеш ім пытанне, чаго яны дабіваюцца і чаго хочуць, нармальнага адказу на яго няма. Нянавісць да Амерыкі -- цалкам ірацыянальная, як любая нянавісць няўдачніка да багатага і шчаслівага суседа.

Усе тыя, хто выступае супраць амерыканскага дамінавання ў свеце, няхай на секунду задумаюцца, якая іншая звышдзяржава, які "сусветны паліцэйскі" іх бы задаволіў. Кітай, дзе жыццё чалавека нічога не каштуе? Расія, дзе інтарэсы дзяржавы ніколі не супадалі з інтарэсамі канкрэтных людзей? Ісламскі свет? Вы хочаце, каб нашы жанчыны насілі параджу, зладзеям адразалі рукі за крадзеж (тады усе калгаснікі без рук хадзіць будуць) і за ўжыванне алкаголю саджалі (большасць насельніцтва за кратамі апынецца)? Калі хаця б на хвілінку задумацца, што чакае свет у выпадку дамінавання Кітая, ісламa альбо Афрыкі, то становіцца страшна.

Ды і зразумелы ўплыў падзей у Нью-Ёрку на беларускую палітыку. Штатам зараз не да Беларусі, відавочна, што гэтыя дні і тыдні амерыканскае кіраўніцтва будзе надаваць менш увагі беларускім падзеям, зрэшты, як і ўсім сусветным.

Віталь ЦЫГАНКОЎ. (Н.Воля.)

# "У беларусаў скралі перамогу.– лічыць прадстаўнік прэзідэнта ЗША Ары Фляйшар.

МЗС Беларусі пратэстуе супраць "умяшальніцтва ва ўнутраныя справы"

Паводле слоў Фляйшара, "апошні дыктатар Еўропы скраў у беларускага народа не толькі вынікі выбараў, але і магчымасць вярнуцца на шлях дэмакратыі і рынкавай эканомікі".

"Вельмі шкада, што гэтая магчымасць была страчана, гэта сумны момант для смелых людзей, якія пакутуюць у атмасферы страху", -- лічыць прадстаўнік прэзідэнта ЗША. Ён назваў афіцыйныя вынікі выбараў "істотна сфальсіфікаванымі".

Паводле слоў Ары Фляйшара, прэзідэнт Буш упэўнены, што Беларусь і яе народ могуць стаць часткай адзінай свабоднай і міралюбівай Еўропы. На жаль, сфальсіфікаваныя вынікі выбараў падарвалі шанцы на тое, што Беларусь будзе мець магчымасць стаць такой часткай Еўропы ў бліжэйшай будучыні. Прадстаўнік Белага дома падкрэсліў, што амерыканскі ўрад падзяляе вывады назіральнікаў ад АБСЕ, якія лічаць, што вынікі выбараў "былі скажоны атмасферай страху, паклёпніцкай кампаніяй супраць лідэраў апазіцыі і тэндэнцыйнасцю дзяржаўных СМІ".

Ары Фляйшар заявіў, што ЗША разам са сваімі еўрапейскімі саюзнікамі будуць выкарыстоўваць замежную дапамогу і міжнародныя арганізацыі, каб спрыяць усталяванню ў Беларусі дэмакратыі, павагі да правоў чалавека і вяршэнства закона.

"Мы прапануем наша сяброўства і падтрымку беларускаму народу. Мы спадзяёмся, што Беларусь хутка далучыцца да іншых свабодных краін адзінай дэмакратычнай Еўропы, якая ўзнікае на нашых вачах", -- сказаў прэс-сакратар прэзідэнта ЗША Ары Фляйшар.

А вось што заявіў у адказ беларускі МЗС: "Народ Беларусі зрабіў свой выбар, праявіўшы мудрасць і сталасць, і з гэтым выбарам еўрапейскія дзяржавы і ЗША мусяць пагадзіцца". Далей -- галоўная ідэя заявы МЗС, прынятая ў адказ на заяву прэс-сакратара прэзідэнта ЗША пра несапраўднасць беларускіх выбараў: "Намер Вашынгтону авбергнуць вынікі выбараў і навязаць еўрапейскай супольнасці лінію на адмову ад супрацоўніцтва з беларускім урадам лішні раз пацвярджае імкненне ЗША любымі шляхамі змяніць дзяржаўны лад у Рэспубліцы Беларусь". Беларускае МЗС заяўляе, што "такія дзеянні Вашынгтону скіраваны на раскол грамадзянскай супольнасці ў Беларусі і супярэчаць асновам міжнародных адносін".

No comments.

Мікола БУСЕЛ. (Н.В.)



**Спд. Соня АРЦЮШЭНКА—** шчырая сяброўка і працаўніца беларускае грамады ў Саўт-Рывэры, ЗША, у тым ліку ў мясцовым прыходзе царквы сьв. Еўфрасіні Полацкай. Дзейная ў сваім асяродзьдзі патрыётка беларускага народу.

Паважаная Соня! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.



* * *

...Беларусы моцна нагадваюць дарослых дзяцей. Іх наіўнасць, вера і цярпенне выклікаюць нават здзіўленую павагу. У адным з пасланняў ці то АБСЕ, ці то Дзяржддэпартамента ЗША мы названы "сьмелым народам". Пры некаторым разважанні цяжка не пагадзіцца. Цярпець эксперыменты над сабою на працягу сямі год, добраахвотна пагадзіцца яшчэ на пяць, -- тут смеласць сапраўды патрэбна...



**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 10 гадоў нашаму Сьцягу і Гербу

**Найноўшая гісторыя беларускае сымболікі.**

Прафэсар Станіслаў Шушкевіч, старшыня Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня, 19 верасьня 1991 году падпісаў Законы "Аб дзяржаўным Гербе" й "Дзяржаўным Сьцягу". З таго дня афіцыйна белачырвона-белы сьцяг і Пагоня сталіся дзяржаўнымі сымбалямі нашае краіны. Сёньня Станіслаў Шушкевіч распавядае пра тое, як парлямэнтам прымаліся гістарычныя сымбалі, й пра значэньне іх для нашай краіны.

**RR:** -- Наколькі было складана прымаць гэты Закон ва ўмовах, калі дзейнічаў пракамуністычны Вярхоўны Савет?

**С.Ш.:** -- Гэта адна з найцікавейшых прыгод у маім жыцьці. Я быў гарачым прыхільнікам сапраўднай беларускай сымболікі - гістарычнага сьцягу, гербу Пагоня - але ў нас у Вярхоўным Савеце было многа людзей, якія ня ведалі, што гэта такое, адкуль. І я памятаю гэтых дэпутатаў, асабліва ад ветэранскіх арганізацыяў, якія былі перакананы, што гэтыя сымбалі існуюць з 41 году, з часоў нямецкае акупацыі, і таму трэба было, каб нехта зь вельмі дасьвечаных людзей, якім даверае асяродзьдзе Вярхоўнага Савету, выступіў і сказаў пра гэта. І я ганаруся тым, што я знайшоў такіх людзей.

Адным зь іх быў Георгі Таразевіч, якога я пераканаў, што трэба выступіць на добрай беларускай мове. Мы доўга абмяркоўвалі, як і што ён будзе казаць. Урэшце ён шчыра, сумленна й вельмі палымяна выступіў у абарону гэтае сымболікі. А другі чалавек павінен быў пераканаць тых, для каго майго навуковага аўтарытэту не існавала, бо яны былі перакананы, што я, як фізык, не магу арыентавацца ў гэтай праблеме. Мне ўдалося дамовіцца з прэзыдэнтам Акадэміі Навук Платонавым. Ён выступіў проста цудоўна. Чаму я так доўга пра гэта гавару? Каб прыняць сымболіку, трэба было 173 галасы ці болей. За сымболіку прагаласавала роўна 173 дэпутаты, й быў проста жах у тых, хто быў супраць сымболікі. Усё адбылося, як мне хацелася, я вельмі ганаруся гэтай падзеяй.

**RR:** -- Гэта быў сьвядомы выбар большасьці дэпутатаў, ці гэта была проста даніна тэндэнцыі, бо ў той час, нагадаю, гэта быў 91 год, шмат рэспублікаў былога Савецкага Саюзу сталі незалежнымі й прынялі ўласную сымболіку. Гэта было тэндэнцыйнае ці ўсё ж сьвядомае рашэньне?

**С.Ш.:** -- Я думаю, што тут трэба падзяліць. Зразумела, што для франтоўцаў, для прыхільнікаў беларускасьці, для тых, хто тое-сёе ведаў пра беларускую гісторыю, гэта было сьвядомае рашэньне. Што гэта было сьвядомае рашэньне для ўсіх 173 чалавек - не перакананы, бо многія маглі проста на той хвалі, пра якую вы гаворыце, на хвалі незалежніцкай, мауляў - хопіць слухаць дыктат старэйшаг брату. Гэта была складаная сытуацыя, і я мяркую, што было знойдзена дастойнае рашэньне.

**RR:** -- Наколькі было важнае прыняцьце гэтых двух Законаў - "Аб дзяржаўным Сьцягу" й "Аб дзяржаўным Гербе"?

**С.Ш.:** -- Гэта важна было ня толькі для таго моманту, але й для сёньнешняга дня, бо моладзь Беларусі сёньня ведае, што была такая гістарычная сымболіка. Быў створаны прэцэдэнт. І яны сёньня, калі пачынаюць разьбірацца, калі бачаць карціны мастакоў... Я заўсёды прыгадваю тую карціну, якая ў краязнаўчым музэі Варшавы вісіць, проста на ўваходзе, дзе славянскія войскі, беларускія войскі, польскія войскі ідуць на Грунвальдскую бітву - там бела-чырвона-белыя сьцягі.

Гэта карціна напісаная вельмі даўно. Цяпер гэтыя людзі, што гавораць, што наша сымболіка не беларуская, гэта ўжо недасьвечаныя, архаічныя выкапні. Рэдка знойдзеш такіх цяпер. Бо прэцэдэнт створаны быў як для сёньняшняга дня. Беларусы ведаюць, што ў іх ёсьць гістарычная сымболіка й яны вернуцца да яе. Незалежна ад таго, што б тут недасьведчаныя палітрукі ні рабілі.

**RR:** -- Але ж сёньня дзяржаўная палітыка скіраваная на тое, каб занядбаць, зьнявечыць гэты сьцяг, гэты герб.

**С.Ш.:** -- Некалі пра савецкую сыстэму пісаў Кандрат Крапіва - "каб сонца засланіць - вушэй асьліных мала". Я думаю, пра гэта таксама можна так сказаць - засланіць сапраўдную беларускасьць гэтым недавумкам ня ўдасца, бо гэта немагчыма.

Паводле (Радыё Рацыя)

* * *

**Васіль БЫКАЎ:** Нацыянальная сымболіка – гэта атрыбут нацыі, якая індэнтыфікуе сябе такой. Сьцяг і Герб не ствараюцца пад кожны палітычны момант, ці пад пэўнага ўладатрымальніка – яны вечныя і спрадвечныя. Калі ж на пачатку трэцяга тысячагодзьдзя ад нараджэньня Хрыстова ў якой нацыі няма гэтай сымболікі, дык няма і нацыі, і наўрад ці ўжо будзе.

Шчасьце беларусаў палягае ў тым, што гэткая сымболіка ў нас ёсьць, яна дайшла да нас ад сівой даўніны. Але яе ў нас скралі, нахабна абрабавалі нацыю, што болей страшна за эканамічны рабунак і аналягічнае з нацыянальным генацыдам.

Ужо адно тое, ня кажучы пра рабунак свабоды, робіць рабаўнікоў злачынцамі, злачынцамі перад нацыяй. Нават, калі яны спрабуюць падмяняць, падкласьці замест сьвятыні фальшыўку і патрабаваць да яе павагі, як да сьвятыні. Гэта ёсьць ужо падвойнае злачынства – перад нацыяй, перад гісторыяй, перад хрысьціянскай маральлю, таксама абрабаванай рабаўнікамі.

Цяпер, калі вялікае няшчасьце спасьцігла амэрыканскі народ, сьвет убачыў, як кінуліся амэрыканцы да свайго зорна-паласатага сьцягу. Сымбалічна, што менавіта ў тым сьцягу пазнаюць і знаёмыя элемэнты гнанай беларускай сьвятыні. У тым і наша спадзёўка, наша няхай сабе і яшчэ не надта ўсьвядомленая нацыяй надзея.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ:** У гэтых сымбалях заключаецца сутнасьць духоўнага ў нацыі ці ў групоўкі людзей. Вось як, напрыклад, у хрысьціянаў крыж увасабляе ўсю хрысьціянскую веру. Так і ў кожным народзе старажытны герб дзяржавы – гэта ўвасабленьне ўсёй яе гісторыі. І вось у нашай Пагоні ўвасабленьне ўсёй нашай тысячагадовай гісторыі.

Беларус, які верыць у Пагоню, гэта ўжо несумненна сьвядомы беларус, хаця ён можа ня ведаць усіх тонкасьцяў, дэталяў беларускай гісторыі. І заўважце, што калі хочуць здушыць гэты народ, падавіць яго дух, то найперш спрабуюць зьнішчыць яго сымбалі. Я памятаю эпізод, калі над Домам Ураду паднялі белчырвона-белы сьцяг.

Паднімалі яго неяк употайкі, ноччу. І вельмі рана, яшчэ быў пусты горад, але мэтро ўжо хадзіла, я выходжу на Пляц Незалежнасьці насупраць Дому Ураду. Толькі выйшаў і над будынкам бачу бел-чырвона-белы сьцяг. Для мяне гэта было нешта незвычайнае.

=======================================

# Вацлаў Гавал сустрэўся з Васілём Быкавым

(Наша Свабода)

У Празе, у Прэзыдэнцкім Палацы, адбылася сустрэча Васіля Быкава з Прэзыдэнтам Чэшскай Рэспублікі Вацлавам Гавалам. Прэзыдэнт мае даволі падрабязную інфармацыю пра апошнія выбары ў Менску, ён выказаў жаданьне даведацца пра сытуацыю ў Беларусі не ад палітыкаў, дыпляматаў ці журналістаў, а ад асобы, якая ёсьць бясспрэчным маральным аўтарытэтам. Быкаў прыляцеў з Франкфурту ў Прагу ў дзень, калі адбылася трагедыя ў ЗША; праграма Гавала на бліжэйшыя дні (ён зьяўляецца Вярхоўным Галоўнакамандуючым), была скарэктаваная. Тым ня меньш, сустрэча адбылася.

Васіль Быкаў сказаў, што за працягу апошніх гадоў Лукашэнка вынішчыў вакол сябе прававую і палітычную прастору – Канстытуцыя скасаваная, ягоныя рэальныя канкурэнты альбо зьнішчаныя, альбо ў эміграцыі. Лукашэнка супрацоўнічае з сумнеўнымі рэжымамі, гандлюе зброяй, якая засталася ад Савецкага Саюзу. Вынікі бясспрэчна сфальсыфікаваных выбараў прымушаюць меркаваць, што Лукашэнка застанецца ва ўладзе яшчэ на пяць гадоў, а народ будзе паглыбляцца ў бездань дыпрэсыі і застою. Быкаў падзякаваў прэзыдэнту за тое, што Чэхія дае палітычны прытулак актывістам беларускай апазыцыі і магчымасьць працягваць вучобу студэнтам, якія выключаны з беларускіх ВНУ за палітычную дзейнасьць. Быкаў сказаў, што ў гэты момант для беларускай апазыцыі вельмі важная падтрымка Эўропы і ЗША.

Вацлаў Гавал адзначыў, што, сапраўды, шмат якія беларусы знайшлі ў Празе другі дом. Выбары ў Беларусі Гавал ацаніў як спосаб усталяваньня «вельмі аўтарытарнага рэжыму, які парушае грамадзянскія свабоды. У мінулыя дзесяцігодзьдзі за камністамі мы мелі падобны вопыт у Чэхіі». Гавал, аднак, выказаў спадзяваньне, што цяпер у Беларусі больш шанцаў дамагчыся дэмакратыі, чым мелі ў свой час чэхі, паколькі не існуе ні савецкай імпэрыі, ні Варшаўскага пакту. «Беларускае грамадзтва чакае доўгі этап змаганьня за свае правы, але ў ім яно можа разьлічваць на нашую падтрымку», – сказаў прэзыдэнт Чэхіі.

Апошнія словы Гавала выглядаюць не простай фармальнасьцю. У дні, калі цывілізаваны сьвет заяўляе пра абмежаваньне стасункаў з афіцыйным Менскам, сустрэча аднаго з найбольш аўтарытэтных і ўплывовых палітыкаў Захаду з пісьменьнікам, які ў сьвядомасьці эўрапэйцаў увасабляе беларускую нацыю, — знак таго, што Эўропа размяжоўвае лукашэнкаўскі рэжым і беларускі народ і бачыць у Беларусі дэмакратычную пэрспэктыву.

---

# ЛУКАШЭНКА АДМОВІЎСЯ ВЫКАЗАЦЬ СПАЧУВАНЬНІ АМЭРЫКАНСКАМУ НАРОДУ

*Як стала вядома з крыніцаў, набліжаных да Адміністрацыі прэзыдэнта, Аляксандар Лукашэнка адмовіўся выказаць спачуваньні амэрыканскаму народу ў сувязі з самымі жахлівымі тэрактамі, што адбыліся ў ЗША. Аляксандар Лукашэнка меў намер наведаць амбасаду ЗША ў Менску для таго, каб уласнаручна напісаць у спэцыяльнай Кнізе жалю, якая зьявілася ў амэрыканскай амбасадзе пасьля трагедыі 11 верасьня, свае спачуваньні амэрыканцам. З гэтай мэтаю ён выехаў у амбасаду, дзе яго чакалі к 11.00. На шляху супрацоўнікі прэс-службы прэзыдэнта патэлефанавалі ў амбасаду для таго, каб папярэдзіць аб тым, што Аляксандар Лукашэнка прыхапіў з сабой цэлую здымачную групу, якая б засьведчыла "усенародна абранага" за такім прыстойным заняткам, а пасьля пракруціла па БТ. Аднак супрацоўнікі амбасады ў адказ заявілі, што ў сувязі з такімі трагічнымі абставінамі здымка, па-першае, не да мсеца, а па другое, зноў такі з тымі ж абставінамі забаронена на тэрыторыі амбасады. У адказ на забарону весьці здымку Лукашэнка аддаў загад разварочвацца і вяртацца назад. Выказваць спачуваньні без відэёзёмкі ён не пажадаў...*

Нагадаем, што ў амэрыканскай амбасадзе ў Беларусі адкрытая кніга для запісу спачуваньняў ахвярам нядаўніх тэрарыстычных актаў у ЗША. Доступ да яе ўсіх жадаючых будзе арганізаваны ў працоўны час да 18 верасьня.

********************************************

# Як свае людзі, - згода будзе

У панядзелак Аляксандар Лукашэнка прызначыў новага прэм'ер-міністра Беларусі. Ім стаў Генадзь Навіцкі - у былым урадзе віцэ-прэм'ер у пытаньнях будаўніцтва, архітэктуры, транспарту.

Новае прызначэньне сталася поўнай нечаканасьцю ня толькі для журналістаў і грамадзкасьці, але й для апарату Савету Міністраў і прэзыдэнцкага атачэньня...

# І славуты паэт быў калісьці падлеткам...

*Пачаў я інтэрв'ю са славутым літаратарам Рыгорам Барадуліным з актуальнага для сябе пытання:*

*- Рыгор Іванавіч, што ў Вашым уяўленні пераходны ўзрост?*

- Пераходны ўзрост - паняцце шматграннае, шматсэнсавае. Гэта пераход ад маленства ў сталасць, пераход ад такога цялячага захаплення жыццём да больш цвярозага роздуму, да большай развагі. Гэта пераход ад хлапчука да мужчыны, ад дзяўчынкі да дзяўчыны. Наогул, гэта яшчэ і пераход з аднаго стану душы ў іншы.

*- Ці памятаеце Вы сябе ў пераходным узросце?*

- Ведаеце, мне зараз 66 гадоў... Таму ў сваім пераходным узросце я жыў у іншым стагоддзі і нават у іншым тысячагоддзі. Хаця ўвогуле ўсе людзі, незалежна ад абставін, задуманы Богам аднолькава. Таму адрозніваюцца толькі асаблівасцямі характару, вонкава, душой... У маім пераходным узросце былі толькі іншыя рэаліі, а стан душы быў, думаю, той самы, што і ў сучасных падлеткаў. Гэта стан трывогі, стан спадзяванняў на самае лепшае, стан надзеі. Безумоўна, там і расчараванне, і роспач... Але, паколькі гэты ўзрост малады, там, канешне, больш ружовых таноў. Ужо пасля, з узростам, яны цямнеюць, цямнеюць...

*- Звычайна ў гэтым узросце з'яўляюцца мары пра сваю будучую прафесію. Кім марыў стаць будучы народны паэт Беларусі?*

- Скажу адразу: не касманаўтам. Толькі з-за таго, што ў той час мы не ведалі, што гэта такое! Нічога канкрэтнага ў мяне тады не было, памятаю толькі, што хацеў быць звязаны з беларускай мовай. Пісаць, не пісаць - пра гэта я не думаў, але ведаў, што мой лёс - гэта беларуская мова, а ў якіх праявах, час паказаў.

*- Якімі аўтарамі вы захапляліся ў той час?*

- У той час я наогул шмат чытаў і перачытаў усё, што было ў бібліятэцы. Тады друкавалася шмат фантастыкі (па тых часах) на роднай мове. Чытаў я і Жуля Верна і "сваю" фантастыку - "Палескіх Рабінзонаў" Янкі Маўра. Дарэчы, у асноўным захапляўся прозай. Не ведаю, чаму, але вершы я пачаў чытаць пазней, у класе 10-м.

*- "Спыніся імгненне, ты цудоўнае!". А калі б вам было дазволена спыніць імгненне, якое імгненне свайго жыцця вы б спынілі?*

- Канешне, калі б мне можна было спыніць імгненне, гэта было б тое імгненне, дзе была мая мама. Таму што колькі я жыву, мама застаецца для мяне і зямлёй, і паветрам, і небам, і сонцам... Я наогул без мамы сябе не ўяўляю. І калі ў мяне ёсць што-небудзь добрае, гэта мільярдная доля ад той дабрыні, якая была ў мамы.

*- У нас ёсць так званае "пакаленне шасьцідзесятнікаў". А ці былі ўжо ў гісторыі беларускай літаратуры такія творчыя хвалі?*

- Кожны час мае свае хвалі. Само жыццё - як хвалі - падымаецца, сплывае, падымаецца, сплывае... А на бераг намываюцца пяшчынкі. Пяшчынкі падзей, пяшчынкі імёнаў... А ўсё астатняе сплывае з часам. Былі хвалі... Не на маёй памяці, але былі "маладнякоўцы", "нашаніўцы", "узвышэнцы"... Апошнія нейкім чынам прапагандавалі "паэзію чыстай красы". Хаця паняцця "паэзіі чыстай красы" няма... У цяперашніх жа умовах любы, хто працуе на дзялянцы беларускасці, лічыцца палітычна свядомым. Яскравы прыклад - Максім Багдановіч. Ён, безумоўна, паэт высокаэўрапейскай культуры і паэт чыстай красы, але ж не трэба забываць, што менавіта Багдановіч напісаў "Пагоню"...

*- А які перыяд у нашай літаратуры вы б вызначылі як найбольш плённы і цікавы?*

- Плён праяўляецца ў часе, калі колькасць пераходзіць у якасць. Але я лічу, што ўсё ж найбольш пленнымі былі 60-я гады XX стагоддзя. Было гэта пасля хрушчоўскай адлігі, пасля развянчання культа Сталіна... Праўда, пасля кожнай адлігі вялікія замаразкі. І замаразкі пачаліся. Але ўсё ж 60-я гады многа нам далі. Зрэшты, час пакажа што застанецца...

*- 6 снежня 1954 года "Чырвоная змена" паведаміла, што на пасяджэнні літаб'яднання былі абмеркаваны вершы студэнта I курса універсітэта Рыгора Барадуліна. Тут жа быў змешчаны ваш верш "Ключ". Якое пачуццё было ў Вас, студэнта-першакурсніка, калі Вы трымалі ў руках той нумар "ЧЗ" і чыталі свой верш і сваё прозвішча?*

- Яшчэ ў вайну, калі была разбіта друкарня, я знашоў шрыфт, з якога сабраў сваё прозьвішча, зьвязаў яго гумачкай, намазаў нечым і друкаваў. Гэта мне дужа падабалася, таму што была павага да друкаванага слова. Ды і ўбачыць сваё прозвішча надрукаваным - зусім іншае ўражанне, чым пачуць яго ці напісаць. Асабіста мяне турбуе, што зараз знікаюць шыльды па-беларуску, бо, калі беларус ідзе і бачыць надпіс на шыльдзе на роднай мове, ён адчувае сваю мову "адзяржаўленай". А калі ідзеш і бачыш надпісы скрозь на іншай мове, адчуваеш сябе нібыта ў чужой краіне. Друкаванае слова мае вялікую моц, і таму вельмі важна, каб нават на такой дробязі, як шыльда, беларус бачыў родную мову. Скарына ж невыпадкова друкаваў свае кнігі...

*- А ці памятаеце вы свае першыя вершы?*

- Я нядаўна знайшоў свае вершы 52-га года... Але гэта не першыя. Першыя больш-менш сур'ёзныя вершы адносяцца недзе да 49-га, 50-га года. Хаця я яшчэ ў пятым класе выпускаўся ў сценгазеце "Калючка", дзе змяшчаў нейкія вершаваныя жарты, у якіх крытыкаваў свае недахопы праз іншых.

*- У 57-м годзе вы сталі лаўрэатам II ступені на ўсесаюзным літконкурсе за вершы з нізкі "На зямлі цалінной". Вы лічыце гэта дасягненнем?*

- Не так дасягненнем, як, кажучы па-цяперашняму, рэкламай. Гэта прыцягвала да цябе ўвагу і давала нейкую магчымасць друкавацца, выдаць кніжку...

*- Што Вы і зрабілі ў 59-м, праз 5 год пасля першай публікацыі ў газеце. Як Вы лічыце, тыя 5 год - вялікі тэрмін?*

- Па тых мерках гэта было вельмі здорава, таму што ў тыя часы, калі ты не сябра (я не люблю выраз "член Саюза пісьменнікаў") Саюза пісьменнікаў, тым больш не парторг, не сакратар у Саюзе пісьменнікаў, не сябра прэзідыума Саюза пісьменнікаў, твой рукапіс мог ляжаць і 5, і 10 гадоў. Былі выпадкі, што некаторыя рукапісы ляжалі па 15 гадоў у пыле! Так што для таго часу і ўзросту (а мне было 24 гады), 5 гадоў - гэта яшчэ няшмат. Ёсць такі стары савецкі анекдот: да Чарненкі - сакратара ЦК, які быў такі стары, што амаль рассыпаўся, - прывялі неяк у ЦК інструктара. Чарненка спытаўся: "Колькі яму гадоў?" - "Пяцьдзесят пяць". - "Каб больш да мяне хлапчукоў не прыводзілі!". Гэта была краіна старых праваднікоў...

*- Вы - сусветна вядомы перакладчык. Каго Вам больш за ўсё спадабалася перакладаць?*

- Цяжка назваць кагосьці аднаго, бо маці ўсіх сваіх дзяцей павінна любіць аднолькава. Мне падабаецца і Містраль, і Вальеха, таму што многія іх вершы перакладзены толькі на беларускую мову (!)... Таксама мне падабаецца і Пастэрнак. А першым маім каханнем, калі можна так сказаць, у грунтоўным перакладзе быў Лорка. Увогуле, я стараўся перакладаць таго, хто мне падабаўся.

*- Прафесар Лонданскага універсітэта, даследчык беларускай літаратуры Арнольд Макмілін адзначыў, што толькі ў вашых вершах ён знайшоў першакласны гумар...*

- Дзякуй Арнольду за добрае слова... Я ўсё жыццё люблю пісаць эпіграмы і з-за гэтага меў шмат непрыемнасцей. Карацей кажучы, за язык часта адказваў гузакамі мой лоб (у пераносным сэнсе)!

*- Але ж калі Вы пісалі эпіграмы, ведалі, што без крыўд не абысціся?*

- Ведаў, канешне...

*- І працягвалі пісаць!..*

І цяпер пішу. І буду пісаць!..

**Глеб ЛАБАДЗЕНКА. (Ч.З.)**





## ДА 25 ПРАЦЭНТАЎ ГАЛАСОЎ ВЫБАРШЧЫКАЎ, ПАДАДЗЕНЫХ ЗА АДНАГО КАНДЫДАТА Ў ПРЭЗІДЭНТЫ, "ПЕРАКАЧАВАЛІ" ДА ДРУГОГА, ЗАЯВІЎ УЛАДЗІМІР ГУДЗЕЕЎ

Да 25 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў, пададзеных за аднаго кандыдата ў прэзідэнты, "перакачавалі" да другога. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 21 верасня ў Мінску заявіў старшыня грамадскага аб'яднання "Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў" Уладзімір Гудзееў.

Ён паведаміў, што звесткі аб выніках галасавання атрыманы ад назіральнікаў, якія знаходзіліся прыкладна на 70 працэнтах усіх выбарчых участкаў. Як адзначыў Гудзееў, папярэдні этап галасавання характарызаваўся масавым прымусам выбаршчыкаў (зафіксавана 314 падобных фактаў), а таксама шматлікімі парушэннямі правілаў захоўвання скрыняў для галасавання і фактамі іх адкрывання (адзначана 435 такіх фактаў).

Аналізуючы вынікі папярэдняга галасавання на 35 працэнтах выбарчых участкаў, Гудзееў зазначыў, што больш за ўсё грамадзян датэрмінова прагаласавала ў Віцебскай вобласці - 30,4 працэнта выбаршчыкаў, а менш за ўсё - у Брэсцкай вобласці (19,96 працэнта). Аднак, як падкрэсліў Гудзееў, гэтыя лічбы адлюстроўваюць ход папярэдняга галасавання ў асноўным у гарадах. Паводле яго слоў, прыкметна адрозніваецца сітуацыя з вынікамі папярэдняга галасавання ў сельскай мясцовасці. Так, у Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці датэрмінова прагаласавалі 54 працэнта выбаршчыкаў, у Клецкім раёне Мінскай вобласці - 51 працэнт, а ў Буда-Кашалёўскім раёне Гомельскай вобласці - 34,64 працэнта. "Я думаю, што ў цэлым па краіне доля датэрмінова прагаласаваўшых магла дасягнуць 30 працэнтаў", -- сказаў Гудзееў.

Ён звярнуў увагу таксама на тое, што вынікі датэрміновага галасавання часам прыкметна адрозніваецца ад вынікаў галасавання 9 верасня. Так, паводле звестак назіральнікаў, на ўчастку № 1 Першамайскага раёна Мінска з 422 датэрмінова прагаласаваўшых Аляксандру Лукашэнку свае галасы аддалі 98,1 працэнта выбаршчыкаў, Уладзіміру Ганчарыку - 1,4 працэнта. Аднак з 342 выбаршчыкаў, якія галасавалі 9 верасня, за Лукашэнку прагаласавалі 56,6 працэнта, а за Ганчарыка - 26,9 працэнта. "Зыходзячы са звестак назірання можна меркаваць, што частка выбарчых бюлетэняў, апушчаных у скрыні падчас папярэдняга галасавання, была падменена", - заявіў Гудзееў.

Акрамя таго, ён назваў іншыя факты, адзначаныя назіральнікамі, якія могуць сведчыць пра фальсіфікацыю вынікаў выбараў. Сярод іх - прыкметная розніца паміж афіцыйнымі звесткамі аб колькасці прагаласаваўшых у дзень выбараў і звесткамі назіральнікаў, розныя маніпуляцыі з выбарчымі бюлетэнямі (укідванні, перакладванні са стосіка ў стосік) і неправадападобна высокая доля галасаваўшых дома. Так, у Мінскай вобласці яна склала 11,58 працэнта выбаршчыкаў. На некаторых участках прыкладна 70-80 працэнтаў выбаршчыкаў прагаласавалі датэрмінова і дома, сказаў Гудзееў.

"Калі накласці гэтыя звесткі не на трэць выбарчых участкаў, а на ўсе, і ўлічыць магчымыя парушэнні выбарчага заканадаўства ў сельскай мясцовасці, то можа ісці размова аб тым, што каля 25 працэнтаў галасоў аднаго кандыдата ў прэзідэнты сталі набыткам другога", - заключыў Уладзімір Гудзееў.

БелаПАН.

## ЦЭНТАРВЫБАРКАМ АБВЕСЬЦІЎ АФІЦЫЙНЫЯ ВЫНІКІ ВЫБАРАЎ: ЗА ЛУКАШЭНКУ 75,65% ГАЛАСОЎ, ЗА ГАНЧАРЫКА — 15,65%…

Нягледзячы на доўгі пералік парушэньняў заканадаўства як у часе агітацыі, гэтак і ў часе галасаваньня, Цэнтарвыбаркам аднагалосна адхіліў усе скаргі. Хоць нават афіцыйная праверка паказала, што ў Гарадзенскай вобласьці з участку датэрміновага галасаваньня ўначы вывозілі скрыню зь бюлетэнямі — нібыта таму, што гэты ўчастак ніхто не ахоўваў, а ў Менску 3 участковыя камісіі запаўнялі пратаколы з вынікамі алоўкам, а не асадкай.

Паводле афіцыйных зьвестак, абвешчаных сёньня, у Менску за Ўладзімера Ганчарыка прагаласавала 30,5% выбарцаў, а за Аляксандра Лукашэнку — 57%.

Цэнтарвыбаркам афіцыйна падсумаваў вынікі выбараў 9 верасьня: за Аляксандра Лукашэнку 4666680 галасоў, або 75,65%, за Ўладзімера Ганчарыка 965261 голас, або 15,65%, і за Сяргея Гайдукевіча 153190 галасоў — 2,48%.

Хочаш вер, хочаш ня вер – розьніцы няма…

# Нясвіжскі замак...

**Сёлета Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс пакінулі дактары**

Ганна ПІЛАТОВІЧ (Наша Свабода)

*Здавалася б, радавацца трэба – шматгадовыя размовы аб рэстаўрацыі гісторыка-архітэктурнай перліны нашага краю нарэшце пераходзяць у практычную плоскасць. Першы крок у гэтым накірунку зроблены – пастановай ураду з замку адселены санаторый, які знаходзіўся там з 1945 года, і палацава-паркавы ансамбль перададзены Нацыянальнаму гісторыка-культурнаму запаведніку «Нясвіж».*

За 55 гадоў эксплуатацыі радавое гняздо Радзівілаў, канешне ж, вельмі моцна пацярпела. Асабліва заўважна гэта цяпер, калі ідзеш па пустых і гулкіх пакоях. Для патрэбаў санаторыя тут рабіліся шматлікія ўнутраныя перабудовы, перагародкі, прыстасоўваліся для гаспадарчых мэтаў пакоі, у якіх некалі гаспадары прымалі знакамітых асобаў з усяго свету.

Як гавораць спецыялісты, усе будынкі палаца ў даволі кепскім стане, па сценах пайшлі разломы. Але невядома, што здарылася б з замкам, калі б усе гэтыя доўгія гады яго не саграваллі сваёй прысутнасцю людзі. «Санаторны перыяд», магчыма, не самы горшы ў яго лёсе.

**З гісторыі**

Нясвіж Радзівілаў быў найбуйнейшым культурным цэнтрам у Беларусі. Яго называлі «маленькім Парыжам», некаранаванай сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Радзівілы, як вядома, мелі выключнае права на збор і захаванне ў сваёй рэзідэнцыі ў Нясвіжы дзяржаўнага архіва — Літоўскай Метрыкі. Палітычная ўлада, якую мелі Радзівілы ў 16-17 стагоддзях, падмацоўвалася іх ваеннай і эканамічнай магутнасцю. Вось як пісаў пра гэты горад гісторык і археолаг Адам Кіркор: «Нясвіж сваімі багаццямі, бляскам, непаўторнасцю выдатных твораў навукі і мастацтва не толькі быў першым у цэлай Літоўскай Русі, але пераўзыходзіў шмат у чым другарадныя сталіцы. Князі Астрожскія, несумненна, былі багацейшымі за Радзівілаў, але Нясвіж заўсёды пераўзыходзіў Астрог, і пераўзыходзіў не разгулам, дзівацтвамі і ўсялякімі празмернасцямі барскага жыцця, але эстэтычным бокам: сваімі рэдкімі зборамі, кабінетамі, бібліятэкай, карціннай галерэяй, тэатрам і г.д. Сярод разнастайных магнацкіх задумак было шмат пробліскаў вытанчанасці, гуманнасці, вышэйшых поглядаў, нават самаахвярнасці».

**Страты**

Страты Нясвіжскага замка бязмерныя. Толькі ў 20-ым стагоддзі ён некалькі разоў пераходзіў «з рук у рукі». Пасля верасня 1939 года рэшткі радзівілаўскай спадчыны – бясцэнныя творы мастацтва, габелены, мэблю, касцюмы – вывезлі ў глыб Расіі і ніхто не збіраецца іх вяртаць. Але і да гэтага гісторыя не была міласэрная да Нясвіжа. У 1772 годзе была разграбленая радзівілаўская скарбніца, самую каштоўную яе частку адправілі ў Пецярбург, другую – у Смаленск. Мноства каштоўных рэчаў разграбілі салдаты і афіцэры. Падчас вайны 1812 года з замка вывезлі каля сотні фурманак, гружаных трафеямі. Архіў быў вывезены таксама, і часткова яго знішчылі. Найбольш каштоўныя рэчы калекцыі трапілі ў 1839 годзе ў Эрмітаж, а нумізматычны кабінет апынуўся ў Харкаўскім універсітэце. Славутая Нясвіжская бібліятэка Радзівілаў, якая налічвала каля 20 тысяч унікальных кніг, была таксама вывезеная ў Пецярбург. У складзе гэтай калекцыі знаходзіўся і хатні кніжны збор «бібліятэкі Бельскай», якая была сабраная Ганнай Радзівіл. 11 інкунабулаў з гэтых збораў аселі ў Дзяржаўнай бібліятэцы Расійскай Федэрацыі.

**Падыходы**

Ідэя рэстаўрацыі занядбанага помніка архітэктуры пачала набываць рэальныя абрысы ўжо ў сярэдзіне 1980-ых гадоў. Партыйныя ўлады вырашылі тады ўзвесці для санаторыя новы будынак у іншым месцы, за паркам (спецыялісты знайшлі багатыя падземныя запасы радону, а ён, як вядома, выкарыстоўваецца ў лячэбных мэтах), а ў замку размясціць філіял Мастацкага музея. Быў падрыхтаваны новы праект, ажыццёўлены нулявы цыкл. Але здарылася перабудова, і партыйныя ўлады сышлі ў небыццё...

У 1994-ым годзе ў Беларусі гасцяваў князь Антоні Радзівіл, з удзелам якога на Міжнародным сімпозіуме «Нясвіж як агульнаеўрапейская гісторыка-культурная каштоўнасць» быў абмеркаваны праект канцэпцыі нацыянальнага запаведніка, асноўнай часткай якога павінен быў быць замак. Нашчадак слыннага беларускага роду стаў адным з заснавальнікаў Міжнароднага фонду «Нясвіж». Двума гадамі раней родавае гняздо наведала спадарыня Альжбета Тамашэўская (дачка Альбрыхта Радзівіла, апошняга ардыната Нясвіжа), якая жыла ў той час у Англіі.

З яе дапамогай работнікі Дзяржархіва кінафотадакументаў змаглі ідэнтыфікаваць людзей на здымках з сямейнага альбома Радзівілаў, што знаходзіцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі Беларусі. А.Тамашэўская прывезла з сабой два альбомы з фотаздымкамі інтэр'ераў Нясвіжскага замка. Гэтыя сямейныя рэліквіі, як яна паведаміла, дасталіся ёй пасля смерці бабулі ў Рыме. Там жа, у Рыме, у польскай семінарыі, знаходзяцца цяпер і многія архівы Радзівілаў. Князь Антоні Радзівіл памёр у канцы 90-ых гадоў, так і не дачакаўшыся якіх-небудзь зрухаў у справе рэстаўрацыі замка. Свой прах ён завяшчаў пахаваць там, дзе ляжаць усе яго продкі – у крыпце нясвіжскага касцёла.

Чаму так доўга, аж да 2001 года, не распачыналася рэстаўрацыя гэтага помніка нашай культуры? Лічыцца, што ў палаца куды больш шанцаў, чым у іншых падобных аб'ектаў у Беларусі, атрымаць адпаведны яго значэнню статус ЮНЕСКО, а значыць, і пэўныя сродкі. Аднак дзеля гэтага патрабуецца запоўніць «пашпарт» помніка, значыць, патрэбныя падаць дакладныя звесткі пра аб'ёмы рэстаўрацыйных работ. Натуральна, што ўвесь гэты працэс стрымлівала знаходжанне ў палацы санаторыя, што пазбаўляла магчымасці правесці неабходныя навуковыя даследаванні.

Тым не менш, нават яшчэ не распачаўшы рэстаўрацыйныя работы на замку, улада пасьпяшалася прыбраць у свае рукі славуты помнік архітэктуры і гісторыі. Прэса паведаміла, што ў Радзівілаўскім палацы мяркуецца размясціць закрытую рэзідэнцыю прэзідэнта Беларусі. Зразумела, што аўтарытэтныя дзеячы нацыянальнай культуры выказалі сваю нязгоду з такім дзіўным выкарыстаннем замка, якое стопрацэнтна ізалявала яго ад народа.

**Што з усяго гэтага атрымаецца?**

Далейшым лёсам старажытнага замка заклапочаныя вельмі многія. І недарэмна. Грошы, як сказалі ў міністэрстве культуры, ёсць толькі на першачарговыя работы: разборку пазнейшых канструкцыяў, узведзеных выключна з мэтай прыстасавання будынка для санаторыя. У гэтым жа спісе першачарговых работ значыцца работа па выдаленні са сцен «дзікай» расліннасці, якая разбурае канструкцыі, насычае сцены небяспечнай вільгаццю; кансервацыя даху пад вежай (кажуць, што яна будзе рабіцца на пастаяннай аснове). На другім этапе (пасля пэўных даследаванняў) мяркуюць распрацаваць Генеральны праект рэстаўрацыі. Спецыялісты лічаць, што ёсць сэнс выбраць у гэтым выпадку прынцып рэстаўрацыі Мірскага замка – пафрагментарная здача аб'екта ў эксплуатацыю. (Па праўдзе кажучы, гэта самы жахлівы ўзор для перайманння, які можна прыдумаць, — Мірскі замак на вачах з-за такой рэстаўрацыі губляе вартасці помніка архітэктуры і культуры.)

Натуральна, што рэстаўрацыя складанага аб'екта запатрабуе вельмі значных фінансавых затратаў. Хілы дзяржаўны бюджэт Беларусі пасля надзвычай «элегантных выбараў» прэзідэнта ў нашай краіне значна скараціўся: фактычна ўсе бюджэтнікі не змаглі атрымаць заработную плату за жнівень. Хутка надыдуць халады, і паўстае пытанне, як захаваць пэўны тэмпературны рэжым, каб не загубіць будынак, як забяспечыць яго захаванне, як уберагчы ад раскрадання і варвараў, дзе ўзяць грошы на працяг работ? Адной з крыніцаў фінансавання, як лічаць у Камітэце па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, можа быць Міжнародны фонд «Нясвіж». Сродкі, якія ён можа акамуляваць, зразумела, вельмі прыдаліся б на даследаванне тых архіўных фондаў па Нясвіжу, што захоўваюцца ў Лондане, Нью-Ёрку, Стакгольме, Рыме. Падняць гэтае пытанне збіраюцца на пасяджэнні беларуска-польскай Камісіі па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны і ад яе імя звярнуцца з такой прапановай да цяперашняга старшыні Міжнароднага фонду князя Марціна Радзівіла, сына Антонія Радзівіла. Але ці захоча фонд супрацоўнічаць з чыноўнікамі, якія ўвасабляюць сённяшнюю палітыку нянавісці і пагарды да ўсяго беларускага? Малаверагодна. Нават і атрымаўшы запэўненні, што «ніякай прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў замку размяшчаць не збіраюцца, а праектная дакументацыя не прадугледжвае моманты для спецыфічнага выкарыстання палаца». Дзіўна атрымліваецца: спачатку збіраліся размяшчаць, пасля раздумалі. Хто іх ведае, што яшчэ прыйдзе ў валадарную галаву...

Вось і атрымліваецца, што застаемся мы сам-насам з «непад'ёмным» палацам. І калі Мірскі замак ужо трэцяе дзесяцігоддзе рэстаўруецца з дапамогай еўрапейскай супольнасці, дык Нясвіжскі палац у адрэстаўраваным выглядзе, мусіць, не пабачаць і нашы праўнукі...

==========================================

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ

### ПРЭЗЫДЫЮМ

Атава, Канада, 12 верасьня 2001 г.

## ЗАЯВА

**Аб прэзыдэнцкіх выбарах у Беларусі 9 верасьня 2001 году**

Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі 9 верасьня 2001 г. яшчэ раз прадэманстравалі антыдэмакратычны характар сучаснага беларускага рэжыму. Дыктатар А. Лукашэнка дамогся "перамогі" мэтадам: манапольнага кантролю над дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, фізычнае распрвы з палітычнымі апанэнтамі, запалохваньня выбарцаў праз дзяржаўных чыноўнікаў і сваіх "вэртыкальшчыкаў", паліцыйнага і адміністрацыйнага перасьледу прыхільнікаў кандыдата ад дэмакратычнае апазыцыі, недапушчаньня назіральнікаў у шмат якіх выпадках да выбарчых месцаў і фальсыфікаваньня галасоў.

У абліччы такой практыкі, Арганізацыя па Бясьпецы і Супрацоўніцтву ў Эўропе, у тым ліку Злучаныя Штаты, адмовіліся прызнаць прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі свабоднымі і справядлівымі. Адразу-ж па выбарах прадстаўнік Эўрапейскага Саюзу Хав'ер Саляна, кіраўнік замежнапалітычнага аддзелу, сказаў пра Беларусь: "Мы ня будзем нармалізаваць дачыненьні з краінай, якая не паважае свабоды выбараў". Прадстаўнік Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША Філіп Рыкер сказаў пра беларускія прэзыдэнцкія выбары: "Нажаль, ніводзін аспэкт выбарчага працэсу ня быў празрыстым і справядлівым. Лукашэнка проста выкарыстаў фасад выбараў, каб змайстраваць сабе бяссэнсавую перамогу".

Пасьля фарсу з прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі заклікае ўсіх свабодалюбных суродзічаў не пасьлабляць працы на карысьць адраджэньня і ўмацаваньня беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці і не пакідаць надзеі, што раней ці пазьней беларускі народ даможацца права жыць у сваёй свабоднай, дэмакратычнай і заможнай дзяржаве. На баку гэткай ідэі стаіць сёньня заходні дэмакратычны сьвет, які выказвае беларускаму дэмакратычнаму руху вельмі важнае палітычнае падтрыманьне.

Гістарычна, справа адбудовы беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці знаходзіцца цяпер на вышэйшым узроўні, як у мінулыя пэрыяды. Праца папярэднікаў не пайшла намарна, а праца сучасьнікаў павінна працягвацца далей. Нягледзячы на ўсе ўрадавыя фальсыфікаты і хлусьню менскіх афіцыйных сродкаў інфармацыі, прэзыдэнцкія выбары паказалі, што вялікая частка беларускага грамадзтва, асабліва моладзь і гараджане, хочуць бачыць Беларусь дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай. Значыцца, як пісаў вялікі Янка Купала, "не загіне Край Забраны, покуль будуць людзі". Беларусь пакутуе, Беларусь змагаецца, Беларусь працуе на будучыню. Дыктатары — часовыя, Беларусь — вечная.

Жыве Беларусь!

*Івонка Сурвілла,* старшыня Рады БНР.

# ТУТЭЙШАЕ…

**Галіна Абакунчык** Radyjo Racyja

Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:
Ня цэніш маючы, а страціш залатое -
Шкада, як і красы твае, мой родны краю,
Тугою па табе тут вобраз твой ствараю.

Крылатыя словы незабыўнай паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" сталіся візытоўкаю да ўсяе творчасьці геніяльнага паэта. Менавіта яны прыходзяць на памяць яшчэ задоўга перад пад'ездам да Наваградка: маляўнічыя краявіды ўзгоркаў, абшары палёў і векавыя лясы - міжволі ўплываюць на ўрачыстасьць настрою й узьнёсласьць думак. Старажытная сталіца Вялікага княства Літоўскага сустракае замкавымі вежамі ў рыштаваньнях: парэшткі іх былой велічы цяпер спрабуюць закансэрваваць.

Дасьведчаныя наваградчане сьцьвярджаюць, што адмысловая камісія навукоўцаў і сталічных чыноўнікаў прыяжджала дасьледаваць вал старога гарадзішча з мэтай магчымай адбудовы замку. Пра вынікі тае экспэдыцыі падрабязнасьцяў тут ня ведаюць, але ўпэўненыя, што нават пры самым абнадзейвальным выніку гэты ўдзячны клопат -- справа ня блізкіх часоў. На шчасьце, другое знакавае месца ў Наваградку -- музэй-сядзіба Адама Міцкевіча адноўлены. І цяпер выглядае шляхетна й годна, як і паэзія Адама ва ўсясьветнай літаратуры. Паводле словаў супрацоўнікаў музэю, штомесяц сюды прыяжджаюць да дзьвюх тысячаў наведнікаў.

Сьляды іх прысутнасьці тут можна пабачыць паўсюдна: на поручнях альтанкі, студні, на вуглах сьвіронку флямастэрамі пакінутыя "клясычныя" надпісы: "Тут быў Вася, Пеця" і г.д. Па іншых подпісах можна вывучыць усю геаграфію Беларусі: Мёры, Шчучын, Паставы… У адрозьненьне ад нашых землякоў, замежныя турысты прыяжджаюць, каб сфатаграфавацца каля дарагіх сэрцу будынкаў. Цяперашні грамадзянін Польшчы Зьбігнеў Талачынскі – нараджэнец Слоніму. Шасьцігадовым хлопчыкам разам з бацькамі выехаў у Польшчу, працаваў выкладчыкам ва ўнівэрсытэце. І толькі, калі пайшоў на пэнсію, змог прыехаць у Беларусь. Літаральна са сьлязьмі на вачох у двары Міцкевічавай сядзібы сп. Талачынскі распавядаў пра першыя хвіліны доўгачаканай сустрэчы з Радзімаю.

**З. Т.:** -Быў я ў Слоніме, бо кожны чалавек, дзе ён нарадзіўся, шануе тое месца, як найлепшае ў сьвеце. Бачыў вуліцу майго дзяцінства, каплічку. Дому няма, але сэрца казала, дзе тое месца. Быў на Сьвіцязі, апетай у казках і легендах. Цяпер я тут, у Наваградку, на месцы нараджэньня паэта, бо гэта сьвятое месца.

Музэй Адама Міцкевіча ў Наваградку, бадай, адзінае месца ў сьвеце, дзе ў пяці экспазыцыйных залях прадстаўлена поўная біяграфія й творчасьць паэта. Толькі ўзгаданай паэмы "Пан Тадэвуш" тут некалькі дзесяткаў выданьняў на беларускай, літоўскай, латыскай, чэскай, украінскай, японскай мовах, на эспэранта. У тым ліку тут ёсьць кніга, надрукаваная ў фундацыі Папы Рымскага, са здымкам рукапісу паэмы, праўленай рукой геніяльнага творцы.

Каб музэй заставаўся, так бы мовіць, жывым, тут праводзяцца выставы, музычныя вечарыны, навуковыя канфэрэнцыі. Але сапраўдным асяродкам культурнага жыцьця ў Наваградку музэй яшчэ ня стаў. Магчыма й таму, што, як гаворыцца, на голым энтузыязьме сёньня далёка не заедзеш. А шараговы статус унікальнай музэйнай сядзібы не дазваляе ейным супрацоўнікам мець прыстойныя заробкі. Гаворыць дырэктар музэю Адама Міцкевіча Мікола Гайба.

**М. Г.:** -Усе мы на заробку паводле тарыфнай сеткі раённых музэяў. Не аднойчы гэтае пытаньне паўставала, і я лічу, што музэі такіх знакавых людзей, як Міцкевіч, Купала, Колас, Багдановіч і некторых іншых, павінны мець больш высокі статус - незалежна ад таго, дзе яны знаходзяцца: у вялікім горадзе альбо вёсцы. Да нас, напрыклад, прыяжджае больш за дзьве тысячы наведнікаў штомесяц. У іншых гэтулькі бывае за год. А разьлічваецца дзяржава з намі аднолькава.

Шараговыя жыхары Наваградка, пераважна, патрыёты свайго краю: хоць і ня шмат ведаюць з гісторыі, але ў горад Міцкевіча ўлюбёныя. Дзесяцігодзьдзі савецкай дэнацыяналізацыі зрабілі сваю чорную справу, а цяперашні эканамічны рэзрух, здаецца, яе давяршае. І хвалююць людзей, перадусім, сацыяльныя праблемы. Як, напрыклад, пэнсіянэра Ўладзімера Ільіча, які падпрацоўвае дворнікам.

**У. І.:** -Я нарадзіўся ў Наваградку. Памятаю, як дзецьмі яшчэ бегалі гуляць на Замкавую гару. Я люблю свой горад і вельмі прыемна, што да нас прыяжджаюць розныя дэлегацыі зь Беларусі й замежжа.

**Г. А.:** -Як жывецца на вашую пэнсію й заробак?

**У. І.:** -Я калі не "ўжываю", то мне хапае. А ўвогуле, у горадзе цяжка пражыць, бо амаль немагчыма ўладкавацца на працу. Асабліва моладзі. Моладзь вельмі шмат п'е. І гэта вельмі вялікая праблема, а нікому да яе няма справы: ні бацькам, ні ўладам. Для моладзі няма ніякіх спартовых пляцовак. Што ім застаецца рабіць? Можа, каб было чым заняцца, дык яны й не пілі бы. Зь п'янствам нешта трэба тэрмінова рабіць, бо гэта вельмі вялікая праблема.

Актывісты грамадзкіх рухаў пасьля прэзыдэнцкай кампаніі зноў вярнуліся да вырашэньня тутэйшых праблемаў. Цяпер найбольшы клопат -- апетая Міцкевічам Сьвіцязь: возера гіне -- сьцьвярджаюць яны. Дом адпачынку, разьмешчаны на ўзьбярэжжы, праз сваю недасканалую каналізацыйную сістэму, мякка кажучы, забруджвае возера, і гэта вядома даўно. А гаспадараньне тут чыгуначнікаў яшчэ больш пагаршае сытуацыю - лічаць мясцовыя эколягі.

Нагадаю, што два гады таму возера Сьвіцязь было перададзенае на баланс Беларускай чыгункі, дарэчы, супраць волі дэпутатаў Наваградзкага гарсавету. Балазе, кіраўніку прыбытковай транспартнай галіны Віктару Рахманьку, які яшчэ й дэпутат верхняй палаты Нацыянальнага сходу, дамовіцца "з кім трэба" па гэтым пытаньні было нескладана. І цяпер, паводле мясцовых "зялёных", увішныя чыгуначнікі актыўна дзеляць запаведныя мясьціны пад будучыя лецішчы. Гаворыць рэдактар экалягічна культурна-асьветнага часопісу "Жаваранак" Аляксандар Царук.

**А. Ц.:** -Чыгуначнікі ўзялі возера на баланс, маўляў, каб усё было добра. Але там, дзе многа грошай, а ў чыгуначнікаў многа грошай, аховы ня будзе й экалёгіі ня будзе. Я лічу, што на Сьвіцязь трэба забараніць езьдзіць да ягонага поўнага аднаўленьня. А з Дому адпачынку трэба зрабіць біябазу.

Першая недзяржаўная арганізацыя ў Наваградку зьявілася ў 1992 годзе – рэгіянальнае аддзяленьне Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". І да сёньня пад дахам "Бацькаўшчыны" працуе моладзевы турыстычна-краязнаўчы клюб "Скрыжаваньне". Цяпер тут існуе асацыяцыя няўрадавых арганізацыяў, у якую ўваходзяць ТБМ, дзіцячы экалягічны клюб "Зялёная карова" й некаторыя іншыя. І ўсё ж грамадзкае жыцьцё ў горадзе гуртуе таварыства філяматаў "Прамень", якое арганізавалі некалькі адукаваных ды ініцыятыўных кабетаў. Мэта ягонай дзейнасьці -- адраджэньне былой славы Наваградку, як культурнага цэнтру.

Сучасныя філяматы адпрэчваюць распаўсюджаны стэрэатып, што паўнацэннае духоўнае жыцьцё магчымае толькі ў сталіцы. І варта зазначыць, што "Праменю" гэта ўдаецца. Горад не пакідае ўражаньня правінцыйнай ускраіны: акрамя згаданага часопісу "Жаваранак", тут выдаецца беларуска-польскі часопіс "Зямля Наваградзкая", рыхтуецца кніга ўспамінаў нараджэнца Наваградка, вядомага фатографа пачатку 20-га стагодзьдзя Яна Булгака, зь дня нараджэньня якога ў 2001 годзе спаўняецца 125 гадоў. Працуюць філяматы й зь дзецьмі, да якіх у невялікіх гарадох ва ўладаў, звычайна, "рукі не даходзяць". Гаворыць адна з актывістак таварыства філяматаў Тацяна Царук.

**Т. Ц.:** -Таварыства філяматаў працуе ў двух накірунках: выдавецкім і грамадзкім. Мы апякуемся музычнай студыяй для таленавітых дзяцей. Плянуем адкрыць мастацкую, фотастудыю, аднавіць "Батлейку", дзейнасьць якой прыпынілася з-за недахопу фінансаваньня.

У плянах таварыства філяматаў -- стварэньне Этнаграфічнага дому. Але, каб не сурочыць, пра гэта спадарыня Тацяна паабяцала распавесьці пры наступнай сустрэчы. Варта заўважыць, што рэдкіх наведнікаў у Наваградку чакаюць прыемныя неспадзяванкі. Так, тры гады таму на цэнтральным пляцы гораду аднавіў дзейнасьць касьцёл дамініканцаў, заснаваны віленскім ваяводам Хадкевічам у 1624 годзе. Ён двойчы гарэў: у часы паўстаньняў 1794 і 1830-31 гадоў. У часы атэістычнага цемрашальства на загад мясцовых камуністаў, як сьцьвярджаюць парафіяне, былі разбураныя чатыры зь сямі алтароў, спаленае касьцельнае начыньне. Спачатку касьцёл быў пераўтвораны ў склад солі, таму цяпер, уеўшыся ў сьцены, соль праступае бруднымі плямамі на чыста пабеленых сьценах. Потым тут месьцілася база прамтавараў, дзе ў 1959 годзе працавала таваразнаўцам пасьля вучобы ў інстытуце Людміла Сычэўская.

**Л. С.:** -Да 1967 году я рабіла тут адбракоўку прадукцыі. Затым касьцёл зачынілі, тут не было ні вокнаў, ні дзьвярэй. Па сутнасьці, гэта была грамадзкая прыбіральня. На сьценах была зьберагліся частка старажытных абразоў. Дык людзі разабралі іх па дамах і вярнулі, калі касьцёл быў адрэстаўраваны.

З 1991 году храм аднаўлялі сіламі парафіянаў й палякаў-наваградцаў з усіх краінаў сьвету. У гэтыя ж часы ў Наваградку была адрэстаўраваная й цяпер працуе мячэць. А вось сынагогу падняць з руінаў ня здолелі. І хоць большасьць габрэяў з гораду выехалі, Наваградак па-ранейшаму можна называць шматнацыянальным асяродкам. Паводле словаў спадарыні Людмілы, толькі ў іх пад'езьдзе мірна ўжываюцца й беларусы, ітатары, і габрэі, і расейцы. На жаль, такога ня скажаш пра ўлады. Паводле ейных словаў, палякаў, што адстойваюць свае правы на захаваньне нацыянальнай культуры й мовы, гарадзкія ўлады проста альбо ўскосна выжываюць з гораду. Сьведчыць Людміла Сычэўская.

**Л. С.:** -У пазамінулым годзе было сабрана 17 заяваў для будаўніцтва польскай школы, дык старшыня гарвыканкаму заявіў, што ніякай школы ня будзе. Кіраўніца аддзелу адукацыі сама развозіла гэтыя заявы па хатах і казала, каб вялі дзяцей у расейскую школу. І казала, што калі будзеце дамагацца польскай, дык вы працаваць тут ня будзеце. Дык ні ў мінулым годзе, ні сёлета ніхто ўжо гэтых заяваў і не пісаў.

Кожны год 4 верасьня ў Наваградку адбываецца вялікая ўрачыстасьць -- адзначаецца дзень, калі ў горадзе зьявіліся 12 сясьцёр-назарытанак. У гады вайны яны пайшлі на сьмерць замест групы тутэйшых жыхароў, якіх немцы зьбіраліся расстраляць як закладнікаў. Парэшткі пакутніцаў пахаваныя ў фарным касьцёле Вітаўта, дзе некалі быў пахрышчаны Адам Міцкевіч. Летась сясьцёр-назарытанак Папа Рымскі Ян Павал Другі ўзьвёў у ранг сьвятых. Не забыліся ўшанаваць іх памяць і нашчадкі тых месьцічаў, каго ўратавалі ад сьмерці паслушніцы Божыя. Але гэта -- тэма асобнай размовы…

******************************************

## У Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці памерла старэйшая жыхарка Беларусі

У вёсцы Малыя Лязневічы Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці памерла старэйшая жыхарка Беларусі Фёкла Баброўская. Аб гэтым паведаміў «Інтэрфаксу» у чацвер старшыня Ладзеніцкага сельсавету Аляксандр Кісляк.

Паводле яго слоў, Ф. Баброўская не дажыла да свайго 118-годдзя два тыдні.

Старшыня сельсавету таксама адзначыў, што Ф. Баброўская нарадзілася ў сялянскай сям'і, у якой было 8 дзяцей, помніла царскія часы і расказы свайго бацькі аб турэцкай вайне. Усё жыццё яна пражыла ў вёсцы Малыя Лязневічы, мела шасцярых дзяцей. У апошнія гады Ф. Баброўская жыла разам з 80-гадовай дачкой Кацярынай.

Як паведамілі «Інтэрфаксу» ў абласным упраўленні статыстыкі, у некаторых раёнах Гродзенскай вобласці ёсць доўгажыхары, узрост якіх дасягае 110 гадоў. Спецыялісты лічаць «цалкам верагодным», што ў бліжэйшыя гады вобласць будзе ўтрымліваць лідэрства ў рэспубліцы па колькасці доўгажыхароў.

==========================================

Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць думаць...

# БЕЛАРУСКІ ЗУХ

**Анатоль КАЗЛОВІЧ** (Народная Воля) №181, 2001.

Управа Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" ўрачыста паведаміла, што гэтая арганізацыя падрыхтавала і пры дапамозе выдавецтва "Беларускі кнігазбор" выпусціла "надзвычай патрэбную ў сённяшні пераломны для лёсу краіны момант кнігу "Шлях нацыі і дзяржавы". Сапраўды, вышэйназваны фаліянт усяляе пачуццё павагі да айчынных дызайнераў і паліграфістаў. Мастак Віктар Сташчанюк стварыў арыгінальны макет, не пашкадаваў месца для ілюстрацый. Тут і летапісныя мініяцюры, і фотаздымкі, і гравюры сярэднявечча, і карты, і схемы, і рэпрадукцыі мастацкіх твораў. Ілюстрацыйны матэрыял ствараe, як у кіно, відэарад і -- быццам бачыш Беларусь ад часоў Полацкага княства да Лукашэнкі.

Так, у адным з раздзелаў кнігі пералічаны ўсе правіцелі Беларусі -- ад старажытнасці да сённяшняга часу. Унушальны спіс! Ёсць яшчэ раздзелы "Гісторыя Беларусі ў табліцах і схемах", "Гісторыя Беларусі ў картах", "Беларускія нацыянальныя сімвалы"...

Для сухіх педантаў падаецца шматгадовая храналогія асноўных падзей нашай гісторыі, для ўзнёслых рамантыкаў -- раздзел "Беларускія песні і гімны", які пачынаецца народным творам "Бітва пад Воршай" і завяршаецца гімнам "Магутны Божа". Для тых, хто верыць толькі факту, -- змешчаны копіі гістарычных дакументаў.

Над унікальнай кнігай працавалі Радзім Гарэцкі, Арсен Ліс, Адам Мальдзіс, Міхась Біч, Георгій Штыхаў, Язэп Юхо, Алег Трусаў, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Арлоў, Віктар Скарабагатаў... Усе -- вядомыя людзі. Усе, пэўна ж, выдатна разумелі неабходнасць сваёй працы для гістарычна неадукаванага народа, для занядбанай радзімы, для нацыянальнай дыяспары. Хочацца падзякаваць калектыву слынных аўтараў, павіншаваць і ... паспачуваць. Таму што няцяжка ўявіць іх расчараванне, калі яны ўбачылі сваю цудоўную кнігу, аддрукаваную тыражом усяго 500 экзэмпляраў.

**Прыкра!**

Зразумела, тут, у Беларусі, зусім мала багатых суайчыннікаў, якія маглі б ахвяраваць уласныя сродкі на пачэсную справу. Мала іх, але ж яны, з добрымі грашыма, існуюць і дзейнічаюць, вунь колькі мужчын захацелі папрацаваць на пасадзе прэзідэнта, бойка распачалі прэзідэнцкую кампанію, не шкадуючы грошай. Дык чаму не дапамаглі выдаць кнігу, якая б дазволіла электарату ўбачыць далей свайго носа і глыбей афіцыёзнага тэлеэкрана? Можа, ім не прапанавалі скінуцца? Можа, яны проста не ведалі, што недзе ў мінскім офісе сядзіць тое ж згуртаванне "Бацькаўшчына", пра якое, дарэчы, не ведае ні тутэйшы люд, ні расцярушаная па свеце, няўлоўная, як пылок папараць-кветкі, беларуская дыяспара?

Скажу, што я падумаў, калі ўбачыў на шыкоўным фаліянце лічбу 500. Што беларускай дыяспары не існуе як рэаліі гэтага свету. Існуе ў Амерыцы толькі спадарыня Ірэна Каляда-Смірнова, яна ўзначальвае дабрачынны фонд, а фонд ахвяраваў пэўную суму на кнігу, пра якую ідзе сумная гаворка. Ахвяраваў, колькі мог. А больш ніхто нічога не даў. Ні ў Амерыцы, ні ў Канадзе, ні ў Аргенціне, ні ў Аўстраліі... Калі б далі хаця па цэнту, то трох мільёнаў (колькасць дыяспары) цэнтаў хапіла б на велізарны тыраж кнігі. НАШАЙ ГАЛОЎНАЙ, АЛЕ НЕПРАЧЫТАНАЙ КНІГІ. НАШАЙ НЯСПРАЎДЖАНАЙ БІБЛІІ.

Хачу ўдакладніць. Рэальная не адна амерыканка беларускага паходжання Каляда-Смірнова. Рэальнымі таксама можна лічыць, напрыклад, беларусаў Аўстраліі, куды з Мінска і адправіўся аднойчы літаратар Яўген Лецка -- "адзін з першых кіраўнікоў "Бацькаўшчыны". Адправіўся ён за акіяны-горы з канкрэтнай мэтай: папрасіць грошай на выданне патрэбных беларусам кніг. Не ведаю, колькі ён падарожнічаў, што рабіў. Ведаю толькі фінал. У 1995 годзе "Народная газета" (яшчэ пры рэдактарстве Сярэдзіча) змясціла заметачку пад дзіўнаватай назвай "Як беларус Лецка аўстралійскія даляры пратанцаваў". У заметачцы -- найцікавейшы крымінальны сюжэт.

Прывёз Лецка чамадан ("дыпламат") даляраў, сабраных у беларусаў Аўстраліі, і чамусьці з тым чамаданам, па яговых словах, паляцеў на танцы ў Мінскі Дом літаратара. Там выступаў фальклорны калектыў, разам танцавалі і артысты, і гледачы. Лецка таксама не ўцярпеў, бо -- зух. Паставіў свой чамадан і ў скокі з упадабанай кабетай. Вярнуўся распараны, а чамадана з грашыма, зноў жа па ягонай версіі, няма. Укралі. Ёсць-такі ў Беларусі свае зухі! Беларускі дух выпарыўся, а зух застаўся. Што адбылося далей з чамаданам-кашальком -- невядома. Ці знайшлі яго міліцыянеры, ці сам Лецка -- СМІ не паведамілі. Вядома адно: грошы ў чамадане сапраўды былі, і немалыя, бо калі б былі малыя, то карыстальнік паклаў бы іх у партманэт, а партманэт -- у кішэню. Тоўстая кішэня добраму танцору не замінае.

Выснова просіцца наступная. Дыяспара быццам ёсць, грошы ў яе ёсць, офіс "Бацькаўшчыны" ёсць, управа ў ім працуе, ідэі генерыруе, факсы шле, новы кіраўнік важную справу вядзе, а кніга-унікум, магчымая біблія ўсіх беларусаў свету, мае наклад усяго 500 асобнікаў.

# Пасынкі на Радзіме

Дзесяцігадовы юбілей адзначыў 27 верасьня Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны. Павіншаваць замежных дыпляматычных энтузыястаў адраджэньня культурнай спадчыны беларусаў прыйдуць амбасадары прадстаўніцтваў у Беларусі, навукоўцы, дасьледчыкі й літаратары. Але высокае міжнароднае прызнаньне Скарынаўскага цэнтру не азначае адпаведнага стаўленьня айчынных уладаў.

Скарынаўскі цэнтар - як яго называюць у асяродку творчай інтэлігенцыі - узьнік на золку найноўшага адраджэньня нацыянальнай культуры Беларусі. Гісторыкі, літаратары, лінгвісты, чые дасьледчыя працы доўгія гады савецкага занядбаньня пыліліся ў архівах ды шуфлядах працоўных сталоў, сталіся запатрабаванымі. Першасная задача дзесяцігадовай даўніны была выкананая, і цяпер Нацыянальны навукова-асьветны цэнтар імя Францішка Скарыны мае крыху іншы кірунак дзейнасьці, але застаецца галоўнае: вывучэньне й распаўсюд беларускай культуры ў сьвеце, а таксама абарона нацыянальна-культурных інтарэсаў Беларусі. І ў сваёй дзяржаве ў тым ліку. Гаворыць дырэктарка цэнтру Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

**Л. У.-К.:** -- Скарынаўскі цэнтар вывучае Беларусь ва ўсіх праявах: гістарычных, літаратурных, адукацыйных і г. д. Мы працавалі й будзем працаваць у беларускіх традыцыях, на беларускай мове й з улікам сусьветных навуковых набыткаў.

Усе гэтыя дзесяць гадоў Скарынаўскі цэнтар быў і застаецца, бадай, адзіным пасярэднікам паміж грамадзкімі арганізацыямі й зацікаўленымі дзяржаўнымі ўстановамі ў супольных намаганьнях за станаўленьне Беларусі. Цяпер тут ёсьць унікальны архіў нашай дыяспары ў сьвеце, беларусазнаўчая бібліятэка, эксапанаты, якіх няма ні ў адным музэі Беларусі. Міжнародныя навуковыя канфэрэнцыі, дасьледчыцкая, выдавецкая й асьветніцкая дзейнасьць - гэта, так бы мовіць, толькі паверхня айсбэргу тытанічнай працы ягоных супрацоўнікаў. Працягвае дырэктарка Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

-- Яшчэ адной асаблівасьцю працы нашага цэнтру зьяўляецца тое, што мы распаўсюджваем інфармацыю пра духоўныя здабыткі нашага народу ня толькі сярод вузкага кола навукоўцаў, але й сярод шырокай грамадзкасьці. Таму, што веды пра багатую спадчыну беларусаў даюць ўпэўненасьць, веру ў будучыню, і гэта вельмі важна для станаўленьня Беларускай Дзяржавы.

Імёны такіх літаратараў, гісторыкаў і дасьледчыкаў, як першы дырэктар цэнтру прафэсар Адам Мальдзіс, навукоўцы Ўладзімер Конан, Мікалай Крукоўскі, Анатоль Грыцкевіч, што супрацоўнічаюць са Скарынаўскім цэнтрам, -- гавораць самі за сябе. Але ж стаўленьне цяперашніх уладаў да разьвіцьця й умацаваньня ўсяго нацыянальнага ў Беларусі сёньня агульна- вядомае. Таму й ня дзіва, што большасьць з 40 навукоўцаў і дасьледчыкаў, якія складаюць "залаты запас" інтэлектоўнага багацьця Беларусі, працуюць, як гаворыцца, на голым энтузыязьме. Вядомую сыстэму дзяржфінсаваньня ўстаноў культуры па рэштквым прынцыпе ў Скарынаўскім цэнтры зьведалі напоўніцу. Таму й пра новыя пляны дзейнасьці тут заяўляць асьцерагаюцца. Сьведчыць дырэктарка Любоў Уладыкоўская-Канаплянік.

-- Маючы асігнаваньні толькі на навуковыя дасьледаваньні, мы праводзім за год да 15 міжнародных навуковых канфэрэнцыяў. Выдаем навуковыя манаграфіі за грошы, якія шукаем сярод мэцэнатаў. Мы губляем свой творчы патэнцыял на пошук грошай! Дзяржава шырока карыстаецца нашымі паслугамі, але грошай на асьветную дзейнасьць у нас няма.

Пра цяперашняе стаўленьне дзяржавы да ўнікальнага навуковага асяродку гаворыць і такі выпадак: злачынцаў, якія ўвесну скралі з будынку Скарынаўскага цэнтру мэмарыяльную дошку Максіму Гарэцкаму, праваахоўнікі й па сёньня не знайшлі. Ня так даўно ў памяшканьнях установы некалькі тыдняў не было сьвятла, бо цэнтар ня змог разьлічыцца па запазычанасьцях. Урачыстасьць з нагоды першага дзесяцігодзьдзя Скарынаўскі цэнтар праводзіць таксама з фінансавай падтрымкай прыватных фундатараў. Дарэчы, свой удзел ва ўрачыстасьцях асабіста пацьвердзілі амбасадары 10 краінаў.

Паводле (Радыё Рацыя)

## На 10 мільёнаў беларусаў — больш за 30 тысяч дзяцей-сірот

На 1 студзеня 2001 года колькасць дзяцей-сірот складала ў Беларусі 30 тысяч 100 чалавек, 85 працэнтаў з якіх з'яўляюцца сацыяльнымі сіротамі, або сіротамі пры жывых бацьках (у 1990 годзе іх было 11,5 тысячы).

Толькі за мінулы год органамі адукацыі было выяўлена 5207 дзяцей, якія асіроцелі ці па розных прычынах засталіся без апекі бацькоў. А за тры апошнія гады сіротамі сталі больш за 16 тысяч маленькіх беларусаў. Гэтыя лічбы былі агучаны на пасяджэнні «круглага стала», прысвечанага праблемам сацыяльнага сіроцтва, галоўным інспектарам Галоўнага упраўлення сацыяльна-выхаваўчай працы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Галінай Рудзянковай.

Пры максімальнай напаўняльнасці дзіцячага дома ў 100 чалавек, для таго, каб уладкаваць 16 тысяч дзяцей у інтэрнатныя ўстановы, нашай краіне прыйшлося б пабудаваць больш за 160 дзіцячых дамоў. Але, на шчасце, прыкладна палову выяўленых сірот органам адукацыі ўдаецца ўладкаваць у новыя сем'і. Так, з 5207 выяўленых летась сірот 2505 дзяцей (45,9 працэнта) былі ўладкаваныя ў апякунскую сям'ю, 49 — у дзіцячыя дамы сямейнага тыпу і 162 — усыноўлены.

У дамы дзіцяці паступіла летась 735 новых выхаванцаў. Усяго ў сістэме Міністэрства аховы здароўя дзейнічае сёння 13 дамоў дзіцяці, у тым ліку 8 — спецыялізаваных, дзе выхоўваюцца дзеці з хібамі развіцця. На пачатак сёлетняга года ў дамах дзіцяці выхоўвалася 1300 дзяцей. Дзеці-сіроты складаюць 78 працэнтаў ад агульнай колькасці выхаванцаў дамоў дзіцяці, але біялагічнымі сіротамі з'яўляюцца з іх толькі 1,6 працэнта. 35 працэнтаў сірот у дамах дзіцяці складаюць дзеці, бацькі якіх пазбаўлены бацькоўскіх правоў, і 41,4 працэнта — дзеці, ад якіх бацькі адмовіліся пры нараджэнні.

І ўсё ж такі, як зазначыла Галіна Рудзянкова, спецыялістаў па ахове дзяцінства не можа не радаваць той факт, што ў апошнія тры гады тэмпы росту сацыяльнага сіроцтва ў нашай краіне крыху замарудзіліся. Так, калі ў сярэдзіне 90-х гадоў колькасць выяўляемых сірот перавышала колькасць выяўленых у папярэднім годзе прыкладна на 1,5—2 тысячы, то ў 2000 годзе колькасць выяўленых сірот аказалася меншай за папярэднюю лічбу на 162 дзіцяці, а ў 1999 годзе ў параўнанні з 1998 годам — на 200 дзяцей...

## Прадпрымальнік з Заслаўя вырашыў аднавіць гістарычную рэліквію

Прадпрымальнік з Заслаўя Пётр Сільвановіч вырашыў аднавіць млын XVIII стагоддзя на Замкавай гары ў Навагрудку. Дапамагчы рэалізаваць гэту ідэю, на яго думку, павінны дзелавыя людзі Беларусі, якія шануюць гістарычную спадчыну. Падрыхтаваны ўжо і праект, згодна з якім у адноўленым млыне размесціцца музей народнай творчасці, у прыбудове галоўнае месца зойме дзеючая ганчарная вытворчасць. Аднаўленне гістарычных будынкаў, лічыць Пётр Сільвановіч, будзе садзейнічаць развіццю замежнага і ўнутранага турызму, прыцягне ў рэспубліку замежныя інвестыцыі.

# Помста ахвярам Курапатаў

**Улады плануюць пакрыць асфальтам памяць пра сталінскі генацыд на Беларусі**

На мінулым тыдні мінскія ўлады распачалі беспрэцэдэнтную па амаральнасці акцыю – пад выглядам пашырэння Мінскай кальцавой шашы пачалася вырубка леса і нівеліроўка тэрыторыі на месцы масавага пахавання ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсіяў ва ўрочышчы Курапаты на ўскраіне Мінска. Праца вядзецца ліхаманкавымі тэмпамі, не спынялася нават у суботу і нядзелю, мо дзеля таго, каб найхутчэй зруйнаваць, што трэба, і паставіць грамадскасць перад здзейсненым злачынствам. Ні пагоркі з былымі воспінамі магілаў, ні дрэвы назад ужо не вернеш.

Першымі выказалі пратэст супраць варварскай акцыі ўладаў па знішчэнні гэтай мемарыяльнай месціны сябры Маладога Фронту. Маладыя людзі прымацавалі да дрэваў, прызначаных на зьнішчэнне, іконы і надпісы «Курапаты. Тут загінула 200.000 чалавек», а на слядах ад бульдозераў устанавілі крыжы. Тэхніка «Белгіпрадора» – арганізацыі, што праводзіць будаўнічыя работы, – пачала пляжыць зямлю і памятныя знакі на адлегласць 50м ад дарогі.

Актывісты Маладога Фронту плануюць устанавіць ва ўрочышчы як мага больш крыжоў, а таксама арганізаваць дзяжурства з тым, каб «не даць рэжыму здзекавацца з магілаў».

Малады Фронт заклікае «ўсіх, каму неабыякавы лёс магіл, памяць продкаў», прыходзіць у Курапаты штодзённа ў 17 гадзін.

У панядзелак было пастаўлена восем крыжоў упоперак фронту працы. Маладафронтаўцы сталі жывым ланцугом і не далі бульдозеру зруйнаваць іх. Будаўнікі выклікалі міліцыю, але тая паглядзела ды хутка з'ехала. На ноч быў пастаўлены намёт, каб будаўнікі не маглі рабіць сваю працу ўначы.

Зранку жыхары прылеглых мікрараёнаў падыходзілі да маладафронтаўцаў і выказвалі спачуванне і абурэнне, што кальцавая дарога вядзецца менавіта праз Курапаты. З пачаткам працоўнага дня з'явіліся будаўнікі з тэхнікай, але маладафронтаўцы зноў не далі прайсці ва ўрочышча. Увесь час там курсіравалі міліцыянты і высокія абласныя чыны, а таксама кіраўніцтва «Белгіпрадора». Адказы чыноўнікаў былі стандартныя: «У нас загад». Але маладафронтаўцы нагадвалі, што загад быў і тым, што стралялі людзей у гэтым месцы 60 гадоў таму.

Апошнія сем гадоў улады рэспублікі рабілі выгляд, што заўважаюць Курапаты. Для ўшанавання памяці ахвяраў не было зроблена анічога. Марнуючы грошы на лядовыя палацы, вышэйшая ўлада не выдзеліла нават рубля, каб паставіць у Курапатах належны помнік і здзейсніць раней прынятыя ўрадавыя пастановы.

Варта нагадаць, што першыя масавыя расстрэлы пачаліся ў Курапатах 1 кастрычніка 1937 года, калі тут выстраламі з наганаў нкусаўцы адымалі жыццё ў такзваных «нацдэмаў». Курапаты сталі апошнім прытулкам для мноства беларускіх праваслаўных і каталіцкіх святароў. Тут былі расстраляныя лепшыя прадстаўнікі нашай навукі і мастацтва, тысячы сялян і рабочых, апазіцыйныя сталінскаму рэжыму афіцэры Чырвонай Арміі, чатыры тысячы палонных 1939 года.

Немагчыма ўявіць, што рашэнне аб наступе на Курапаты прымалася без згоды галоўнага «гаранта» канстытуцыйных правоў беларускіх грамадзянаў. Такім чынам, бульдозеры ў Курапатах адлюстроўваюць палітычныя погляды ўрада і той накірунак, у які вядуць краіну.

Калі зараз грамадства не здолее супрацьстаяць варварскім задумам, дык у хуткім часе будзем мець замест мемарыяльнай мясціны з помнікам аўтобусны прыпынак «Курапаты» з урнай для смецця.

=================================

# Чаму літоўцы маюць нацыянальныя школы

Мікола **ВАЎРАНЮК** (Ніва)

*— Ці мае значэнне, на якой мове навучаюць моладзь фізкультуры? — спытаў войт гміны Сейны Ян Скіндзер.*

— Мае, — адказалі тамтэйшыя літоўцы і 3 верасня, замест у сейненскую гімназію, завезлі сваіх дзяцей у Пуньск.

З некаторых вёсак Сейненскай гміны, напрыклад, з Жэгараў, у Пуньск будзе 40 кіламетраў. Пра штодзённы давоз дзяцей у школу няма нават гаворкі. Таму новыя вучні пасяліліся ў інтэрнаце пры тамтэйшым агульнаадукацыйным ліцэі. Дырэктар Пачатковай школы і Гімназіі ў Пуньску Юзаф Блюдзіс не бачыць перашкод, каб пагаварыць з вучнямі. Адно просіць не называць іх імён:

— Гэтае становішча лічу часовым, дзеці хутчэй ці пазней вернуцца ў Сейны, дык навошта падвяргаць іх нейкім непрыемнасцям, калі скажуць нешта не тое.

Калі школьнікі з Пуньскай гміны чакаюць аўтобусаў, якія развязуць іх па дамах, дзеці з Сейнаў ядуць абед у школьнай сталоўцы.

— Сёння былі курыныя ножкі, вельмі смачныя, — хваляць кухарак.

— Не сумуеце па родных? Калі бачылі іх апошні раз?

— Да мяне бацькі прыязджалі ўчора, — кажа высокая бландзінка. Астатнія адзін праз другога гавораць, калі наведвалі іх сямейнікі, калі размаўлялі з імі па тэлефоне. Асаблівага суму на тварах не відаць.

— Мы тут як быццам у летнім лагеры. Настаўнікі, пакуль не ціснуць, усе пра нас дбаюць, стараюцца дагадзіць.

— Не хочацца назад у Сейны?

— Чаму не, цягне да калегаў. Але калі спалучаць наш клас з польскім, я застаюся ў Пуньску, — рашуча заяўляе вучань другога класа гімназіі.

* * *

У Сейнах дзве гімназіі, адна падпарадкаваная гарадскім уладам, другая — гмінным. У апошняй па два класы: польскі і літоўскі. Яшчэ перад канікуламі пайшла гаворка, што гміна дзеля ашчаднасці плануе спалучыць некаторыя ўрокі літоўскіх класаў з польскімі. Літоўцы на гэта не пагадзіліся. 26 чэрвеня заснавалі пратэстацыйны камітэт, які 2 ліпеня пісаў міністру нацыянальнай адукацыі: *Нашу волю, каб нашы дзеці вучыліся на роднай мове, мы выказвалі неаднаразова. Аднак яе ігнаруюць. Таму звяртаемся да пана Міністра з просьбай інтэрвеніяваць і як найхутчэй прыняць меры, якія не дазволяць ліквідаваць навучанне на літоўскай мове.*

— У гміне не верылі, што мы можам сабрацца, — кажа Ян Жукоўскі, старшыня пратэстацыйнага камітэта, — лічылі, што мы пагаворым, а пасля канікул яны і так зробяць тое, што задумалі.

Ян Жукоўскі з зашмальцаванымі тавотам па локці рукамі не мае часу на доўгую размову.

— Якраз алейная каробка ў трактары лопнула, — апраўдваецца, — прыехаў механік і калупаемся. Не выпадае пакінуць чалавека аднаго за працай.

Старшыня пратэстацыйнага камітэта жыве ў вёсцы Бержнікі і гаспадарыць на 50 гектарах каля памежнага возера Галадусь. З яго панадворка добра відаць літоўскі бераг.

— Войт асцерагаў мяне, што я ў гэтай справе астануся казлом адпушчэння. А я адказаў, пабачым, хто яшчэ з нас будзе казлом.

* * *

У першым літоўскім класе сейненскай гімназіі 13 вучняў, у другім — 7. Утрыманне іх, паводле войта Яна Скіндзера, гэта завялікая нагрузка для гміннага бюджэту (трэці клас, у якім 16 вучняў, застаўся без змен).

— У Пуньску ў польскіх класах гімназіі нават на адно дзіця менш, — заўважае дырэктар Юзаф Блюдзіс, — але ніхто не гаворыць, што гміне не пад сілу іх утрымаць.

— Нам не ідзе пра ўрокі гімнастыкі, бо тыя ў Сейнах і раней вяліся па-польску, — кажа Альгерд Вайцяхоўскі, старшыня Згуртавання літоўцаў у Польшчы, — мы не пагаджаемся на тое, каб такія важныя прадметы як матэматыка, біялогія ці фізіка нашы дзеці не маглі засвойваць на роднай мове.

Падляшская асветная куратория прызнала ўзніклы канфлікт парушэннем правоў нацыянальнай меншасці, але куратары не маюць ніякіх фармальна-праўных інструментаў націску на органы тэрытарыяльнага самакіравання, якія ўтрымліваюць школы.

— Мы ведаем законы, падпісаныя Польшчаю міжнародныя канвенцыі аб ахове спадчыны нацыянальных меншасцей і двухбаковыя польска-літоўскія трактаты, — заяўляе Ірэна Гаспаровіч, старшыня Супольнасці літоўцаў у Польшчы (федэрацыі, якая аб'ядноўвае ўсе арганізацыі літоўскай нацыянальнай меншасці), — ведаем свае правы і ад іх не адступімся ні на крок. Ведае гэта і войт Ян Скіндзер. Справу з літоўскімі класамі раздзьмуў, каб выцягнуць дадатковыя грошы на асвету ў гміне.

* * *

У пачатку верасня ў Варшаве святкавалі дзесяцігоддзе абнаўлення дыпламатычных зносін Польшчы і Літвы. Прыехалі найвышэйшыя ўлады Літоўскай Рэспублікі, з прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, старшынёю парламента. На ўрачыстасці былі таксама запрошаны прадстаўнікі Супольнасці літоўцаў у Польшчы. Усе важнейшыя польскія мас-медыі ў той сам час інфармавалі не толькі пра святкаванні, але і пра канфлікт у Сейнах. Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі заявіў, што нейкі дробны інцыдэнт не стане на перашкодзе польска-літоўскаму сяброўству, а патрэбныя на навучанне роднай мовы польскіх літоўцаў грошы павінны знайсціся.

У Сейны прыехалі прадстаўнікі Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Войт прадставіў ім свае рахункі на ўтрыманне літоўскіх класаў. Міністэрскія чыноўнікі здзівіліся вылічанай суме, пачухалі галовы і пагадзіліся на павелічэнне асветнай субвенцыі Сейненскай гміне.

Пасля двух тыдняў літоўскія дзеці з гміны Сейны пакінулі гасцінны інтэрнат у Пуньску і вярнуліся ў сваю школу.

Ян Жукоўскі даўно адрамантаваў свой трактар і ўзяўся заворваць і засяваць свае гектары, з якіх — за возерам — відаць Літву.

---

Брава Летувісы! А як змагаюцца за беларускую мову нашы мужыкі на Беласточчыне?.. Проста сорамна…



# ПРАЙШЛІ ВЫБАРЫ Ў ПОЛЬШЧЫ…

Дзяржаўная Выбарчая Камісія паведаміла пра афіцыйныя вынікі парламэнцкіх выбараў, якія прайшлі ў Польшчы ў мінулую нядзелю. Дэпутатамі Сэйму-ніжэйшай палаты польскага парлямэнту- сталі прадстаўнікі 6 палітычных партыяў ды нямецкай нацыянальнай меншасьці.

Найбольш галасоў- 40,04%, атрымала кааліцыя Саюзу Левых Дэмакратычных Сілаў ды Вуніі Працы. Такім чынам, сацыял-дэмакраты будуць мець у Сэйме 216 дэпутатаў. Цэнтра-правая Грамадзянская Плятформа мае ў Сэйме 65 дэпутатаў- на гэтую палітычную групоўку прагаласавала 12,68% выбаршчыкаў. Сялянская групоўка Самаабарона атрымала 10,2% галасоў падтрымкі- гэта азначае, што ў Сэйме будзе мець 53 прадстаўнікоў. За правую партыю Права і Справядлівасьць прагаласавала 9,5% выбаршчыкаў -- гэта дае 44 дэпутацкія мандаты. Польскую Сялянскую Партыю падтрымала 8,98% выбарчыкаў- гэтая групоўка будзе мець у ніжэйшай палаце 42 дэпутатаў. У сваю чаргу нацыянал-каталіцкая Ліга Польскіх Сямей у Сэйме будзе мець 38 дэпутатаў- за яе прагаласавала 7,87% выбаршчыкаў. Акрамя гэтага, у ніжэйшай палаце польскага парлямэнту 2 дэпутатаў будзе мець нямецкая нацыянальная меншасьць у Польшчы.

У сваю чаргу бясспрэчным лідэрам у Сэнаце-вышэйшай палаце парлямэнту- зьяўляецца кааліцыя Саюзу Левых Дэмакратычных Сілаў ды Вуніі Працы. У палаце гэтая групоўка будзе мець 75 сэнатараў са 100.

Ян Сычэўскі выбары прайграў, і гэта добра…

=================================

# У царкве ў Ляхавіцкім раёне ўкрадзены каштоўныя абразы

/БЕЛТА/. Старажытныя і вельмі каштоўныя абразы ўкрадзены 20 верасня са Свята-Духаўскай царквы вёскі Падлессе Ляхавіцкага раёна/

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА у прэс-службе УУС аблвыканкама, у чацвер пад вечар невядомыя ўкралі два абразы 17 стагоддзя, а таксама палатно "Багародзіца з дзіцем", якое адносіцца да 18-га стагоддзя.

Кошт украдзенага ўстанаўліваецца. Але, на думку праваахоўных органаў, якія займаюцца расследаваннем гэтага здарэння, ён даволі вялікі. Не гаворачы ўжо аб маральным уроне, нанесеным прыхаджанам гэтай царквы.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++

* * *

Колькасць турыстаў, якія наведалі Беларусь, паменшылася на 14,8 працэнта -- з 29.716 чалавек у першым паўгоддзі мінулага года да 25.323 чалавек у першым паўгоддзі гэтага года. У той жа час колькасць паездак грамадзян Беларусі за мяжу ўзрасла на 11,9 працэнта -- з 573.049 да 641.394. Колькасць выездаў з краіны перавысіла колькасць уездаў у яе ў 25,3 разы (у першым паўгодзьдзі мінулага года -- у 19,3 разы). Для параўнання: суседнюю Літву летась наведалі больш як 5 мільёнаў турыстаў.



*Гісторыю трэба ведаць, вывучаць і разумець...*

Янка ЖАМОЙЦІН (Варшава)

# ШТО НОВАЕ Ў ГІСТОРЫЮ СБМ УНОСЯЦЬ "ВЫРВАНЫЯ БАЧЫНЫ" Лявона ЮРЭВІЧА?

Беларуская гісторыяграфія нямала зрабіла ў апошнім пятнаццацігодзьдзі ў галіне ачышчэньня гісторыі Беларусі ад пераінначаньняў адбягаючых ад фактычных падзеяў, зьвязаных з лёсам беларускага народу.

Ня менш таго заблытанасьць падзей новага часу не змагла дасюль вызваліцца ад прэсіі антыбеларускай прапаганды. Датычыць гэта, між іншым, і руху моладзі ў пэрыяд нямецкай акупацыі ды першага пасьляваеннага дзесяцігодзьдзя. Маю на ўвазе кантравэрсійнае ўсё яшчэ пытаньне зарганізаванай дзейнасьці пад сьцягам Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ) і наступствы вынікаючыя з дзейнасьці СБМ у пасьляваенныя гады. Фэномэн гэтага масавага, калі не сказаць стыхійнага, руху на цэлай акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі, ня маючы сабе роўнага ў 20-м стагодзьдзі (апрача агульнаграмадзкай работніцка-сялянскай Грамады) не дачакаўся дасюль аб'ектыўнай ацэнкі гісторыкаў, аснованай на магчымых да асягненьня дакумэнтах, на аналізах сьведчаньняў жывых яшчэ ўдзельнікаў той арганізацыі і іншых аб'ектыўных сьведкаў. Наадварот, безупынная актыўнасьць варожых дзейнікаў прапаганды, паслугоўваючыся пашквілем і безадказным інвэктывам, унушыла стэрэатып выключнай адмоўнасьці СБМ, пад закідам калабарацыі.

Адзінае навукова-фундамэнтальнае апрацаваньне Юры Туронка пад загалоўкам "Беларусь пад нямецкай акупацыяй", уважанае за незраўнанае дасюль з іншымі ў галіне новай гісторыі Беларусі, замяшчае інфармацыю, між іншымі, аб гэнэзісе СБМ і сьціплы камэнтар на меру магчымасьці часу апрацаваньня ў варунках сёмага і восьмага дзесяцігодзьдзяў. Прытрымоўваючыся прынцыпу навуковых досьледаў, Юры Туронак уважліва падбудаваў свае сьцьверджаньні дакумэнтацыяй і ацэнкай фактаў ды абумоўленасьцяў спрыяючых пакліканьню да жыцьця СБМ. Аўтар твору зьвяртае ўвагу на ролю галоўнага камісара Вільгельма Кубэ ў гэтай галіне, які, кіруючыся ідэяй нацыянальнай сьвядомасьці беларусаў з мэтай давесьці Беларусь да эўрапейскай супольнасьці народаў і дзяржаваў (у варунках зразумелай ім новай Эўропы), спрыяў зарганізаваньню школьніцтва, навуковых, грамадзкіх і адміністрацыйных установаў, у тым ліку і СБМ, нягледзячы на пагрозы з боку шэфа СД у Менску Эдуарда Штраўха. Пакліканьне СБМ Кубэ лічыў важным сродкам да ажыцьцяўленьня яго палітычнай канцэпцыі.

Адносіны Кубэ да справы паспрыялі безумоўна памыснаму сфармуляваньню Статуту СБМ, у якім падкрэсьлена неабходнасьць патрыятычнага ўзгадаваньня моладзі, пачуцьця грамадзкага абавязку, працавітасьці, гатоўнасьці служыць і працаваць для свайго народу і краю.

Было-б аднак наіўнасьцю думаць, што Кубэ, прадстаўнік акупацыйнага апарату ўлады, дзейнічаў на карысьць інтарэсаў самой Беларусі. Ён, безумоўна, меў сваю канцэпцыю будовы "Новай Эўропы" і лічыў, што Беларусь выкарыстае як станоўчы дзейнік у яго палітыцы, тым больш, што аслабіць тым самым супраціў савецкай Расеі і Польшчы.

Нас аднак цікавіць, як выкарысталі гэтую сытуацыю беларусы ў сваіх інтарэсах. Мяркуючы ацэнку гэтай праблемы, варта сягнуць да небеспадстаўнага сьцьверджаньня Язэпам Каранеўскім (Станіславам Станкевічам) дваістасьці шляху змаганьня: падпольнай працы, накіраванай на падрываньне варожых нямецкіх як і бальшавіцкіх акцыяў, і з другога боку — легальнай работы ў адміністрацыі дзеля прыкрыцьця падпольля і абароны насельніцтва. Гэтая вонкавая дваістасьць у практыцы зводзілася часта да выконваньня як падпольнай, так і афіцыйнай працы тымі самымі людзьмі, аб чым яшчэ будзе гутарка. Зразумела, што ў так складанай сытуацыі не магло абыйсьціся без здраднікаў, калябарантаў — прыслужнікаў акупацыйнаму рэжыму, і без унутранай барацьбы ў беларускім асяродзьдзі, у тым ліку і асяродзьдзі моладзі. Я. Каранеўскі на гэтую тэму піша: ..."Калі зактавізавалася невялікая група беларускіх калябарантаў на чале зь ведамым яшчэ з часоў "Грамады" палітычным спэкулянтам Фабіянам Акінчыцам, то ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП) выдае яму сьмяротны прысуд, які хутка пасьля гэтага быў выкананы. Пранямецкай групе Акінчыца ўдаецца часткова захапіць у свае рукі кіраўніцтва СБМ, якая імкнецца ўзгадоўваць нашую моладзь у духу нямецкага Гітлер-югэнд. Аднак СБМ унутры быў апанаваны беларускімі патрыётамі і дзякуючы гэтаму стаўся ён запраўдный кузьняй нацыянальнага ўзгадаваньня".

Я. Каранеўскі крануўся тут вельмі важнага пытаньня ўплыву БНП на дабор кіраўнічых кадраў і на напрамак узгадаваўчай працы моладзі ў СБМ. Фактычна, пры сустрэчы мясцовых хлопцаў высланых з акругаў на першы курс кіраўнікоў СБМ у траўні 1943 году ў Менску з "узгадаванцамі" Акінчыца, якія прыехалі з Нямеччыны, вычуваўся пачаткова выразны "халадок" недаверу адных да другіх. Створаная аднак атмасфэра сяброўства хутка зьяднала маладых людзей у іх стылі побыту і ( як мне паказалася) у пераканаьнях. Былыя жаўнеры ніяк не праяўлялі прызнакаў акінчыцавай "апрацоўкі" ў часе ўдзелу ў курсе ані ў пазьнейшых паводзінах. Аказаліся ўсе верныя сваім ідэям: адны — нацыянальным, іншыя савецкім пераконваньням. Накіраваныя ў акругі ўсе разьехаліся з пачуцьцём сяброўства, а тыя, якім паказалася непрымальнай нацыянальная ідэялогія, пашукалі хутка прытулку ў савецкіх партызанаў. Належалі да тых: Рыгор Фралоў, Мікіта Каляда і Максім Бабкоў. Пасьля нейкага часу лёс з імі падзяліў, здаецца, Цыкуноў. Усе іншыя засталіся вернымі нацыянальнаму ўсьведамленьню.

Вось як у памяці і пачуцьцях працаўніка кіраўнічага штабу СБМ, аднаго з тых маладых тады людзей — Уладзіміра Гарэліка замацаваўся эпізод з паўстагодзьдзя таму назад: "Камісар Беларусі В. Кубэ даваў шырокую магчымасьць прапаведываць ідэю беларускага нацыянальнага Адраджэньня і гэту магчымасьць мы, юнакі, гледзячы на беларускіх палітыкаў старэйшага пакаленьня, павінны былі выкарыстаць, як прысягу перад сваёй Бацькаўшчынай Беларусяй. Няхай мы, моладзь, былі палітычна не граматнымі, але інтуітыўна чыстыя парывы нашых душ выявіліся ў арганізацыйную стыхію — СБМ, які аб'яднаў 100-тысячную юнацкую грамаду ў самога парога кансалідацыі варожых яму сілаў". Дарэчы было-б падкрэсьліць, што У. Гарэлік са сваімі сябрамі застаўся верны ідэі вольнасьці Беларусі як у пачуцьцях, так і ў арганізацыйнай дзейнасьці.

Пачуцьцём нацыянальнага Адраджэньня ў значнай меры было апанаванае асяродзьдзе беларускай моладзі на акупаванай тэрыторыі, дзякуючы спраўнай арганізацыі школьніцтва, ужо перад утварэньнем СБМ. Заслугі ў гэтых адносінах прыпісваюцца маладым настаўнікам — у большасьці падрыхтаваным на настаўніцкіх курсах, не абавязкова добрым прафэсыяналам, але выключна энтузіястам адраджэньня роднай мовы, нацыянальнага гонару. На дапамогу ім пайшлі старэйшыя адукаваныя пэдагогі былых паліквідаваных беларускіх школаў.

На такім грунце без цяжкасьці паўстаў Саюз Беларускай Моладзі, які зынстытуцыялізаваў маладзёвы рух на акупаванай немцамі беларускай тэрыторыі. Узьнікла аднак пытаньне ўтрыманьня напрамку нацыянальнага ўзгадаваньня моладзі, зьберажэньня ад ўплываў нямецкіх ці іншых акупантаў.

Дэкрэт Ostministerium з 3. 6. 1942 году, які дазваляў на пакліканьне арганізацыяў моладзі ў Эстоніі і Латвіі, стварыў пэрспэктыву да зарганізаваньня моладзі і на беларускіх акупаваных абшарах. У сувязі з гэтым падпольныя дзеячы Беларускай Незалежніцкай Партыі паставілі сабе мэту забясьпечыць у будучай маладзёвай арганізацыі варункі ўзгадаваньня ў ідэі патрыятызму і незалежнасьці. Тэзіс гэты находзіць пацьверджаньне ў фактах:

1. У Навагрудку, з ініцыятывы Барыса Рагулі, кіраўніцтва СБМ было ад пачатку аснована на створанай ім сетцы БНП.

2. З інфармацыі пастаўскага дзеяча СБМ Віктара Сікоры вынікае, што Ўсевалод Родзька праводзіў інтэнсыўную працу з боку БНП сярод курсантаў БСМ. Сікора расказвае: ..."Ну а пасьля пазнаёміўся з Родзькам. Сталі неяк зьбірацца на тайныя сходы. Родзька нам казаў: "Трэба гуртавацца, трэба ўмацоўваць свае становішчы, зьбіраць сілы... Для нас аднолькавыя ворагі — фашызм і камунізм. Але нам няма дзе дзявацца. Пападземся паміж імі і нас зьнішчаць, наогул сатруць..."

3. У пастанове прынятай на паседжаньні ЦК БНП 23. 1. 1950 году аб стане і чарговых заданьнях беларускага маладзёжнага руху, між іншым запісана: "За мінулае дзесяцігодзьдзе маладзёжны рух меў значныя дасягненьні і посьпехі: а) ён набыў характар масавага руху, ахапіўшы сабою дзесяткі тысяч беларускай моладзі і ўцягнуўшы яе ў агульны фронт вызваленчага змаганьня беларускага народу; б) праз Саюз Беларускай Моладзі набыў духу і характару глыбокага нацыянальна беларускага патрыятызму, любові да свайго народу і Бацькаўшчыны..."

Прыведзеныя вышэй прыклады могуць паслужыць пабудове тэзіса аб дачыненьнях і ўплывах БНП на СБМ, на патрыятычны незалежніцкі напрамак ўзгадаваньня моладзі ў СБМ.

Пытаньне гэтае і наогул праблема напрамку ўзгадаваньня маладога пакаленьня ў практычнай дзейнасьці СБМ, на жаль, не дачакалася дасюль зацікаўленьня дасьледчыкаў гісторыі. Ніхто з гісторыкаў не падняў цяжкасьці пакіравацца трапінай, вызначанай Статутам СБМ у галіне разьвіцьця нацыянальнай сьвядомасьці ( на што зьвярнуў увагу Ю. Туронак у згаданай працы): у якой ступені, як гэтае пастанаўленьне Статуту было зьдзейсьнена. Не абазначае гэта аднак незацікаўленьня грамадзян гэтым кур'ёзным пытаньнем. Справа ў тым, што выказваньні на гэтую тэму асоб утаемнічаных, па-першае, абмежаваныя публіцыстычнымі магчымасьцямі, па-другое — расьцярушаныя па розных часопісах і прэсавых загалоўках пры недахопе сродкаў на выданьне аналітычнага зборніка, прысьвечанага гэтай праблеме. Мэтазгодным у такой сытуацыі будзе паклікацца на сьведчаньні сьведкаў маладзёвага руху з пэрыяду нямецкай акупацыі, знойдзеныя ў прэсе і іншых публікацыях.

Маладзечанскі мастак Кастусь Харашэвіч, навязваючы да ўзгаданага твору Ю. Туронка піша: "СБМ быў нацыянальнай беларускай арганізацыяй моладзі. Аб яе папулярнасьці сярод моладзі гаворыць той факт, што толькі за адзін год з 1943 па 1944 у яе ўлілося каля 100 тыс. беларускіх юнакоў і дзяўчат. Падкрэсьліў, што гэта рабілася выключна добраахвотна. Ці можа нармальны чалавечы розум уявіць, каб за такі кароткі тэрмін такая значная колькасьць маладых беларусаў раптоўна стала прыхільнікамі фашысцкай ідэялегіі?!" Далей К. Харашэвіч сьцьвярджае: "Галоўнай прычынай бурнага росту СБМ стала ідэя нацыянальнага Адраджэньня і незалежнасьці Беларусі". Пастаўленае вышэй пытаньне К. Харашэвічам насоўвае іншае сумненьне: ці можа лагічна разважаючы чалавек дапусьціць думку аб безідэйнай калабарацыі з якім-бы ні было акупантам тысяч дзяўчат і юнакоў — узгадаванцаў СБМ, якія ў пасьляваеннай жорсткай савецкай рэчаіснасьці гуртаваліся самаісна, незалежна ад уплываў звонку, у

падпольных маладзёвых патрыятычных арганізацыях, з мэтай змагання з татальнай русыфікацыяй, за вольнасьць Бацькаўшчыны? Суполкі пераважна студэнцкай моладзі ўзьнікалі стыхійна амаль на ўсёй тэрыторыі заходніх абшараў Беларусі: у Слоніме, Наваградку, Баранавічах, Ганцавічах, Берасьці, у Глыбокім і Паставах пад рознымі назовамі, як: "Саюз беларускіх патрыётаў", "Саюз вызваленьня Беларусі", "Чайка", "За Беларусь", "Вольная Беларусь" і іншыя.

Аб дачыненьні СБМ да сьветапагляду дзеячаў гэтага падпольнага вызваленчага руху хай выкажуцца яны самі:

Кастусь Рамановіч, сябра СБМ у Наваградку і сузаснавальнік "Саюзу вызваленьня Беларусі" у 1947 (пасьля 2-хгадовага зьняволеньня за ўдзел у СБМ) заяўляе ў 1997 годзе апытальніку "Нашай Ніве": "У СБМ я загартаваўся ў сапраўднага патрыёта". Абгрунтоўвае сваю заяву (у скар.) тым, што ў СБМ "уся праца канцэнтравалася на патрыятычным выхаваньні моладзі... каб моладзь адчула сваю адказнасьць за лёс і дабрабыт Бацькаўшчыны і заўжды была гатовая служыць і працаваць на карысьць свайго народу". Кастусь, сёньня інжынер будаўнік, адцярпеўшы паўторнае пакараньне ў Гулагу, застаўся верным ідэі незалежнасьці Беларусі.

Алеся Умпіровіч (Фурс), дзеячка пастаўскага "Саюзу беларускіх патрыётаў" (СБП), характарызуючы СБМ між іншым, піша: "Асабіста я і мае сябры разумелі СБМ толькі як асяродак, дзе гартаваліся патрыятычныя пачуцьці моладзі, любоў да роднага беларускага. Нічога не прышчаплялася нам нацыянал-фашыстскага, ніякай няпрыязі да іншых людзей і народаў..." Зблізжаныя зьместам зьяўляюцца характарыстыкі дзейнасьці СБМ Алеся Амельяновіча, дзеяча СБП, Юзэфы Найдзюк , былой вучаніцы Беларускай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школы ў Баранавічах(1942-1944),Ціны Клыкоўскай у выказваньні пра маладзечанскую "гандлёўку" (гандлёвую школу) на тэму СБМ у 1943 г. і шмат іншых дзеячаў і ўдзельнікаў СБМ ці сьведкаў, якіх немагчыма зьмясьціць у гэтых кароткіх заўвагах. Нямала шырэйшых зьместам выказваньняў пра пакліканьне да жыцьця суполак СБМ, дзейнасьці іх у краіне і ў Нямеччыне, пра структуру арганізацыі, зьмешчана:

У часопісе "Полацак" № 9,10,11/ 1993 — Кліўленд; у месячніку "Часопіс" № 8,9,10/ 1993 — Беласток; у кніжках: "Лёс аднаго пакаленьня", Беласток, 1996, "Успаміны" Анелі Катковіч і Вэронікі Катковіч-Клентак, Беласток, 1999; "Вяртаньне БНП" Сяргея Ёрша, Менск, 1998; у даволі зьмястоўных інфармацыях Алеся Вініцкага пра дзейнасьць актывістаў СБМ у лагерох і іншых працоўных прадпрыемствах Нямеччыны, распаўсюджаных пачаткова ў машынапісе, а пасьля апублікаваных у кнізе "Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939-1951 гадох"; у іншых публікацыях, якіх немагчыма тут выкласьці.

Узгаданыя публікацыі дастаткова абшырна асьвятляюць істоту СБМ, абсяг і напрамак яго дзейнасьці, складаюць матэрыял для дасьледчыкаў гісторыі. Маючы гэта на ўвазе, нельга пагадзіцца з Галінаю Абакунчык, што выдадзеныя пад загалоўкам "Вырваныя бачыны. Да гісторыі Саюзу Беларускай Моладзі" Л. Юрэвіча, зьмешчаныя ім інтэрв'ю з Міколам Ганьком і Валерыям Навіцкім, абнародаваная прыватная карэспандэнцыя Надзеі Абрамавай ды яе жыцьцяпіс — быццам-бы "адна з першых спробаў у Беларусі праўдзіва распавесьці пра Саюз Беларускай Моладзі, зьліквідаваць былыя белыя плямы ў гісторыі апошняй вайны".

Удзячнасьць належыцца Л. Юрэвічу за запісаньне, а М. Ганьку і В. Навіцкаму за згоду на інтэрв'ю і апублікаваньне іх успамінаў. Сп. Навіцкі, апавядаючы аб сваіх ваенных прыгодах і часткова закрануўшы асабістыя сувязі з СБМ, вобразна прадставіў пануючую сытуацыю на Беларусі ў тым часе, што для гісторыі не без значэньня.

Істотнымі для гісторыі СБМ зьяўляюцца інфармацыі Міколы Ганька, якія ў большасьці пацьвярджаюць апублікаваныя раней, у ўзгаданых вышэй публікацыях на тэму СБМ. Датычаць яны напрамку ўзгадавачай працы з моладзьдзю, стыхійнага росту арганізацыі, яе структуры, уніформы, працы ў Нямеччыне і т. п. Аповяд М. Ганька хоць ніколькі не разьбягаецца з прыведзенымі вышэй у тэксьце публікацыямі, то аднак мае тое значэньне, што паходзіць з "першай рукі" — ад чалавека беспасрэдна зьвязанага з цэнтрам арганізацыі, што не без значэньня для верагоднасьці апублікаваных раней матэрыялаў.

На ўвагу заслугоўвае гутарка пра брата Міколы, Міхася Ганька шэфа правадніка СБМ, ды памяркоўнасьць Міколы ў яго выказваньнях. Ён хоць і падкрэсьліў здольнасьці Міхася, то аднак не выкарыстаў гэтага да абгрунтаваньня факту пакліканьня Міхася на пасаду шэфа арганізацыі. Інтэлектуальныя годнасьці і мэнталітэт хлопца, выхаванага ў асяродзьдзі моладзі Заходняй Беларусі прадбачанай да ахапленьня арганізацыяй, магло быць галоўным аргумэнтам рашэньня паклікаьня яго на тую пасаду. Мікола апраўдвае магчымыя памылкі брата недахопам вопыту. Пры тым, з падслуханай прыпадкова гутаркі Міхася з Б. Рагулям, дайшоў да вываду, што брат быў утаямнічаны ў справы падпольнай дзейнасьці БНП. З-за стрыманасьці аднак не паскардзіўся ў гутарцы з Юрэвічам на безупынную небясьпеку сытуацыі шэфа правадніка, які мусіў лавіраваць між намаганьнямі радзімага падпольля і пагрозай акупанта. У гэтым заключалася драма Міхася Ганька, якога неўтаямнічаныя судзілі па зьнешніх манерах паводзін. Разумелі гэта аднак сябры блізкія да Міхася і аддавалі яму належную пашану. Згаданы раней У. Гарэлік у сваіх успамінах, між іншым піша: ..."Вось пры такіх абставінах нараджаўся Саюз Беларускай Моладзі — СБМ, на чале якога стаяў вялікі і бясстрашны патрыёт свайго народу Міхась Ганько. Ён апрацаваў Статут арганізацыі, заснаваў пэрыядычна-месячны часопіс "Жыве Беларусь" і быў яго рэдактарам і ідэялёгам. Ён усёцэла аддаўся беларускай справе, але працуючы пад акупацыяй не заўсёды мог праводзіць свае ідэі ў жыцьцё так, як-бы яму жадалася"... (успаміны ў машынапісе).

Лёс Міхася Ганька да канца не высьнены, аднак з выказваньняў Міколы і іншых улікаў вынікае, што "доктар" (псэўданім Міхася) прабываў у Польшчы, аб чым Мікола згадваў са зразумелай стрыманасьцю. Праўдападобна, ня час яшчэ на поўнае высьвеньне.

Доктар Надзея Абрамава засталася ў памяці сьведкаў і ўдзельнікаў падзеяў з часу нямецкай акупацыі, як добрая арганізатарка, здольная зьяднаць вакол сябе супрацоўнікаў і падуладных, сумленны выканаўца прынятых на сябе абавязкаў з пачуцьця абавязковасьці і грамадзка-патрыятычных меркаваньняў.

Абнародаваныя ў "Вырваных бачынах" Л. Юрэвіча карэспандэнцыя Н. Абрамавай і камэнтар да яе жыцьцяпісу схіляюць да больш крытычнага позірку на постаць той жанчыны і да (магчыма, крыўдных) высноваў з апублікаванага ў кніжцы матэрыялу.

1. Няма довадаў на пацьверджаньне вэрсіі Л. Юрэвіча аб зарганізаваньні Абрамавай Саюзу Беларускай Моладзі ў 1942 годзе. Праца др. Абрамавай з моладзьдзю ня мела характару падпольнай — забароненай і небясьпечнай, як унушае аўтар "бачын". Аналягічная праца праводзілася на абшары іншых рэгіёнаў акупаванай Беларусі, аб чым згадвае сп. А. Шукелойць на аснове адпаведных ім арганізацыяў у рамках Беларускай Народнай Самапомачы (БНС) у Вялейцы, у Баранавічах, у Глыбокім і аб чым напомніў вышэй аўтар гэтай нататкі ў адносінах да Навагрдчыны. БНС мела свае аддзелы моладзі. Справа ў тым, што згода акупанта на нацыянальнае ўзгадаваньне і адраджэньне беларускага школьніцтва мела, між іншым, палітычнае значэньне, як процістаўнасьць да аблуднай бальшавіцкай русыфікацыйнай палітыкі ў школах пад беларускай шыльдай. Мэтазгоднасьць вэрсіі Юрэвіча аб паклікаьні Абрамавай СБМ у 1942 годзе застаецца няяснай.

2. Аўтар "Бачын" дае да зразуменьня, што да ізаляцыі Абрамавай ад беларускага асяродзьдзя і яго дзейнасьці ў Нямеччыне прычынілася адсутнасьць дапамогі Цэнтральнай Рады ў эвакуацыі, небясьпека з боку савецкай місіі. На мой погляд, нельга дамагацца ад людзей недасьведчаных акупацыяй, зразуменьня драмы эвакуацыі ў разгары ваеннай сумятохі і небясьпекі аднолькавай для ўсіх нацыянальных дзеячаў антысавецкага напрамку, пачынаючы ад дружыновага СБМ да самага прэзыдэнта БЦР. У кожным выпадку пачуцьцё крыўды ад некага ды пагроза небясьпекі — ці гэта дастатковая прычына да зьмены пераканаўняў вышэйшага рангу як: нацыянальны гонар, патрыятызм, калі яны маюць глыбейшыя асновы ды зьяўляюцца часткай нейкага "Я"?

3. З абнародаванай у "Бачынах" перапіскі (нават з сям'ёю шчыра беларускаю) вынікае, што Абрамава выракласе беларушчыны, паслугоўвалася ў прыватным жыцьці рускаю мовою, а да прапановы Д. Касмовіча ўдзельнічаньня ў беларускім руху дыяспары аднеслася адмоўна.

У падсумаваньні "Вырваныя бачыны" зацямняюць асобу Н. Абрамавай. Весткі, зьмешчаныя ў кнізе, хоць і не падважаюць пераканаьня аб сумленным выконваньні ёю абавязку кіраўнічкі СБМ, то аднак схіляюць да высновы, што праца з беларускай моладзьдзю — гэта быў толькі эпізод у яе жыцьці, прычынены ўмовамі акупацыі. Не ўсьцярогся аўтар "Вырваных бачын" і ад ухібаў у разьдзеле кнігі "Асобы і рэаліі".

1. (стар. 190) "Верагоднасьць", на якую паклікаецца ў інфармацыі аб побыце Міхася Ганька на Беларусі ў 1945 годзе, а тым больш аб яго ўдзеле ў партызанскіх змаганьнях, аснована на гіпатэзах, вынікаючых з эміграцыйных публікацыяў, не пацьверджаных дасюль рэальнымі фактамі. Зрэшты, у сам эміграцыйны гісторык Юрка Стасевіч у часопісе "Беларускі голас" (1981 год) сьцьвярджае: "Лёс Вітушкі і Ганька не вядомы". Не разьясьняюць справы і "Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі" Алеся Вініцкага. Дасюль ніхто з групы Родзькі адыходзячай з Чэхаславакіі на Беларусь не назваў сярод адступаючых празьвішча Ганька, не згадана пра яго сярод і паветраных дэсантнікаў, нікому не ўдалося напаткаць яго рэальныя сьляды побыту на Бацькаўшчыне пасьля вайны. Карлаг сканцэнтраваў большасьць пакаранай беларускай моладзі, якая пасьля — да 1956-57 гадоў — засталася там на ссылцы (там скрытабойча загінуў Лідзкі акруговы кіраўнік СБМ Алег Лапіцкі). Усе яны падлягалі інвігіляцыі МГБ і, бясспрэчна, былі непакоеныя празьвішчам Ганька, так як і ў сьледзтвах. Праўдападобна гэта магло паслужыць высновам, што Ганька шукалі ў Казахстане, але-ж тым больш дапытваліся пра яго ў менскай "амэрыканцы" ці маскоўскай "бутырцы".

Таямніцай застаецца лёс шэфа правадніка СБМ, аднак параўнаўча сьлед Міколы Ганька, аб якім вышэй была мова, паказваецца больш рэальны.

2. (стар. 191) Хоць сёньня ўжо гэта ня мае сітотнага значэньня, то аднак гістарычная сьціпласьць вымагае спраставаньня сьвярджэньня Л. Юрэвіча, што Людміла Гутар (цяпер Рагуля — вельмі прыгожая і сымпатычная дзяўчына) — кіраўнічка дзяўчат у Навагрaдчыне — была быццам акруговаю кіраўнічкай СБМ. Акруговымі кіраўнікамі СБМ, у тым ліку і ў Навгрaдку, былі выключна хлопцы, што пацьвярджае між іншым знойдзены і ўдаступлены гісторыкам Сяргеем Ёршам дакумэнт:

Командиру соединения В. И. Козлову.

Начальнику ОО (асобага аддзелу - С.Ё.) соединения — майору Жукову

От Александра Осадченко

Агентурное донесение.

Союз Белорусской Молодежи (СБМ)

/.../

Вся Белоруссия делится на 11 "гебитов" — округов

1. Минск, руководитель организации СБМ — Бузак Сергей, белорус, 1918 г. рождения... Его прмощник — Белоновский Владимир — 1918 г. рождения, белорус, член ВЛКСМ.

Каплунов Федор является руководителем СБМ по г. Минску. Каплунов 1918 г. рождения, образование среднее, был в Красной Армии...

2. Барановичи — руководитель Шпак, проживает в г. Барановичи, 1918 г. рождения, белорус, освобожден из немецкого плена...

3. Слоним, руководитель Суравый Борис, 1909 г. рождения, образование высшее, преподаватель... Его

помощник Фролов Георгий Емельянович, канд. ВКПб с 1942 г., по национальности белорус, в плен попал в 1942 г. под Харьковом. Флоров Георгий Емельянович в настоящее время находится в партизанах, в отряде им. Ворошилова, 3-й Минской бригады.

4. Лида, руководитель Бобков Максим, 1915 г. рождения, беспартийный, учился в Москве, где в настоящее время находятся его родители и родственники, инженер-механик по торфу, в/звание лейтенант, в Крыму был при штабе фронта 1-го Отдела.

5. Новогрудок, руководителем был Коляда Никита Никитович, член ВКПб с 1940 г., уроженец д.Водопойное, Покровского/с, Чистозерного р-на, новосибирской области, преподаватель, в плен попал 16 мая 1942 г. под Керчью, в настоящее время Коляда находится в партизанах, в отряде им. Ворошилова, 3-й Минской бригады. С уходом Коляды в партизаны на его месте остался его заместитель Жамойтин Иван, 1922 г. рождения, проживает в 30 км. от Лиды, образование незаконченое среднее.

6. Глыбокое — руководитель Матюшонок Евгений, западник из м. Глыбокае.

7. Ганцевичи — руководитель Дьячковский Борис, 1916 г. рождения...

8. Вилейка — руководитель Стенник, западник, образование среднее...

9. Слуцк — руководитель Манько, образование высшее...

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 3500, в.2, спр. 51, арк. 69-70.

3. (стар. 203) Л. Юрэвіч чамусьці здэградаваў Барыса Рагулю ў галіне цывільна-грамадзкіх становішчаў, між іншым прыпісваючы не прадбачаную Статутам пасаду інспэктара СБМ...

Ён уплываў на моладзь і на арганізацыю СБМ перш за ўсё з боку БНП, але сам не зьніжаўся да ролі дзеяча СБМ на ўзроўні акругі. Сваёю незраўнанаю актыўнасьцю імкнуўся ў аснаўным да разбуджэньня патрыятызму сярод моладзі і волі збройнага змаганьня. Калі не згадаць іншых імкненьняў доктара Аляксандра Орсы — школьнага інспэктара — зьберагчы моладзь для навукі, Барыс быў безумоўным кумірам моладзі, у кожным выпадку да часу роспуску свайго войска і эвакуацыі.

У рэфлексіях на тэму мэтазгоднасьці гэтага рашэньня Б. Рагуля сказаў у дадзеным інтэрв'ю ў ліпені 1997 году: "Бог рассудзіць ці правільна я паступіў". Не чакаючы на суд Усявышняга, справу пастараўся выясьніць Л. Юрэвіч у аповесьці "Жыцьцё пад агнём" (Менск 1999).

4. (стар. 204) Нічым не даказана інфармацыя памешчаная Л. Юрэвічам на старонцы 204, што Ўсевалад Родзька "пасьля судовага працэсу па справе БНП расстраляны". Жыхарка Варшавы Надзя Рамановіч атрымала ад сваёй дваюраднай сястры Ірмы — дзявочае прозьвішча Зайко — жонкі Мечыслава Контаўта, старшыні Менскага павету з канца 1941 году вестку, што ў 1956 годзе, пасьля звольненьня яе з лягеру, навязала кантакт са зьняволеным у мужскім лягеры Ўсеваладам Родзькам, які сказаў ёй, што ён не падлягае вызваленьню. Спадарыня Ірма добра ведала У. Родзьку — суседа з вёскі Верасава ў Наваградчыне і ўтрымоўвала з ім кантакт у час акупацыі.

Для Цанавы, шэфа МГБ у БССР, У Родзька быў цэннай крыніцай ведаў неабходных для доктарскай працы на тэму беларускага нацыянальнага руху, над якой Цанава працаваў у часе зьняволеньня Родзькі. У. Родзька быў патрэбны Цанаве жывы.

Аповед Л. Юрэвіча, на які паклікаецца Алег Гардзіенка ў інтэрв'ю зьмешчаным у газэце "Беларускі Дайджэст" № 6 з чэрвеня 2001 году, што быццам-бы "нават у іх, за акіянам людзі казалі яму — За што бярэшся?... нават там баяцца кнігі пра СБМ". Далей у тэксьце інтэрв'ю чытаем: "А раптам, калі выйдуць гэтыя ўспаміны хтосьці прыйдзе і спытае: Што ты рабіў у 1943 годзе?"

Намёк у сэнсе гэтага сфармуляваньня на тое, што ўдзел у руху СБМ нешта нягоднае ці сарамлівае, аб чым небясьпечна ўзгадваць, зьневажае пачуцьці тых жывых яшчэ і ў памяць адыйшоўшых сяброў СБМ, для якіх гонарам быў удзел у арганізацыі і пазьнейшае змаганьне за вольнасьць краіны, за якое панесьлі ахвяру зьняволеньня ў нялюдзкіх умовах альбо і сьмерць. Іх пакуль што яшчэ сотні сярод жывых, яны не канспіруюцца, не маюць што затойваць, але і не фабулярызуюць сваіх выказваньняў, паколькі дзейнасьць іх запісана і забясьпечана ў моцных, хоць яшчэ цяжка даступных архівах. Хопіць толькі добрай волі да іх зьвярнуцца.

Прадумаўшы зьмест публікацыяў паданых у тэксьце гэтых заўвагаў і параўнаўшы іх з тэкстам "Вырваных бачын", насоўваюцца пытаньні:

Што новае ў гісторыю СБМ уносіць гэтая кніжка, апрача спрэчак над лёсам Міхася Ганька ды засяваньня сумніву ў адносінах да постаці Надзеі Абрамавай?

Чым заслужылі на фірмаваньне так аўтарытэтным складам навукова-рэдакцыйнай рады два два праведзеньня, хай сабе і прафэсійна, публіцыстычныя інтэрв'ю ды абнародваньне прыватнай перапіскі і біяграфіі Н. Абрамавай, без камэнтароў ці высноваў з пераказанага матэрыялу?

Як ацаніць інфармацыі, якія не знаходзяць пацьверджаньня ў фактах ці пераіначаныя?

Абгрунтаваньнем прыпісанага рангу кніжцы пастараўся заняцца рэдактар Алег Гардзеенка, малады навуковы працаўнік, які далажыў максымум стараньняў памысна выканаць пастаўленае перад ім заданьне. Паколькі апублікаваная рэкляма кніжкі ў "Беларускім Дайджэсьце" № 6 з чэрвеня 2001 не прамаўляе да перакананьня, то трэба аддаць справядлівасьць факту, што добра прадуманы А. Гардзеенкам уступ скандэнсаваны ў кароткім, але лягічна сфармуляваным, з разуменьнем прадмету справы зьместам, зьяўляецца станоўчым элементам твору.

**Даведка:** Янка Жамойцін, 1922 г. нар. — жыхар Варшавы, абсальвэнт Варшаўскага Ўнівэрсытэту — былы вязень Карлагу, быў пакараны за прыналежнасьць да БНП і за працу ў СБМ. Цяпер удзельнічае ў грамадзка-культурнай, у тым ліку публіцыстычнай, дзейнасьці беларускага асяродзьдзя.

## Сьветлы ўспамін пра шэфа-праваднікa СБМ

*Нядаўна на Ўкраіне ў продажы зьявілася кніга ўспамінаў украінскага дзеяча Тамаша Беластоцкага (1905 - 1995; Тиміш Білостоцький. Спогади. Б. м., 2000. Накладом Братства кол. Вояків 1-ої УД УНА), у якой ёсьць шмат зьвестак пра беларускі нацыянальны рух часоў Другой сусьветнай вайны. У прыватнасьці, аўтар неаднойчы згадвае пра Саюз Беларускай Моладзі й ейнага кіраўніка Міхася Ганько, зь якім ён быў асабіста знаёмы*

З Вены, было гэта каля 15.10.44... /выехаў/ да Троппаў... Даведаўся я, што ў Троппаў ужо знаходзіцца даўжэйшы час беларускі праваднік і яго супрацоўнікі, выбраўся тэрмінова, каб пазнаёміцца зьім да т. зв. "дэвізенбаракен", дзе былі зьмешчаны бюро дынстштэльле.

Шэф-Праваднік Саюзу Беларускай Моладзі п. Міхал Ганько вельмі гасьцінна прыняў нас, быў я разам з п. Кузьмовічэваю. Пазнаёміліся мы зь яго супрацоўнікамі і дамовіліся мы сустрэцца на канферэнцыі ў Бэрліне, куды нас выклікалі...

**Саюз Беларускай моладзі СБМ**

Тады я зарыентаваўся, што на Беларусі існавала арганізацыя моладзі СБМ (Саюз Беларускай Моладзі) па фармальнаму дазволу нямецкай улады (да гэтага спрычыніўся асабліва обэрбаннфюрэр Шульц, што там працаваў), якая мела агульны асьветна-спартовы характар і правяла за час аднагадовага свайго існаваньня вялікую працу ў напрамку нацыянальна-ўсьведамляючай дзейнасьці сярод беларускай моладзі. Выдавала яна шэраг брашурак, 2 часопісы для дзяцей і моладзі, праводзіла розныя адмысловыя курсы, дзіцячыя садкі, вышкольвала інструктараў, кіраўнічак для вядзеньня гурткоў моладзі. Пасьля эвакуацыі гэтая арганізацыя моладзі амаль у поўным складзе пераехала ў Нямеччыну, пры гэтым большая частка хлопцаў і дзяўчат пайшлі на працу і адмысловы вышкал у нямецкую індустрыю. У гэты спосаб паўстала адмысловая група нібыта фаховага вышкалу моладзі т. зв. "Вайсрутэнішес Югендверк" і гэты была асноўная частка арганізацыі СБМ.

Праваднік беларускай моладзі Ганько абапіраўся ў сваёй дзейнасьці перадусім на тую адмысловую групу моладзі, яна працавала па фабрыках у агульных сваіх гуртках асобна ад іншых, мела сваіх гуртковых кіраўнікоў, кіраўнічак, нават сваіх форабайтэраў. Гэта дало магчымасьць беларускай моладзі адпаведна аформіцца ў адносінах працы, захавала іх ад усялякага роду выкарыстаньня...

**Беларуская арганізацыя моладзі**

Ганько быў малодшы за мяне, быў поўны энтузіязму для справы беларускага народу, належаў да найбліжэйшых супрацоўнікаў прэз. праф. Астроўскага і быў сябрам Беларускай Нацыянальнай Рады (на самой справе - Беларускай Цэнтральнай Рады - "ГК"), у складзе якой выконваў абавязкі Праваднікa СБМ. У акружэньні сваіх супрацоўнікаў, якіх меў там 3-ох хлопцаў, ён цешыўся вялікім аўтарытэтам. Была таксама там праваднiца беларускіх дзяўчат п. д-р Абрамава, што мела таксама мабыць 3 ці 4 пастаянных супрацоўніц, аднак рэальным кіраўніком быў Шэф-Праваднік, што пісаў рэфераты, артыкулы ў часопісы, выпрацоўваў ідэялёгічныя накірункі і арганізацыйныя правілы. Ніколі не шкадаваў мне тлумачэньня ці парады. Юнацкая група хлопцаў у СБМ была невялікая, усяго каля 3.000 юнакоў і, здаецца, да 1.000 юначак... Ганько тады сказаў мне выразна, што ў юнацкіх справах ёсьць столькі кампэтыцыйных спрэчак і калізій паміж вайсковымі, цывільнымі ўстановамі і гбфром Нікелем, што фактычна выхаваўча-нацыянальная праца там проста немагчымая. Таму ён усю надзею кладзе перадусім на арганізацыю цывільнай, работніцкай беларускай моладзі, дзе мае поўную свабоду працы і тут укладае ён сваю душу. Юнакоў ён увесь час адведваў і калі трэба было рабіў захады ў іх справах...

Чытаў я тады розныя правільнікі СБМ, артыкулы і далей расказваў п. Ганьку пра нашыя ўкраінскія дасягненьні яшчэ да вайны ў арганізацыях моладзі. Разумелі мы адзін аднаго вельмі добра, я яго беларускую, ён маю ўкраінскую мову, адносіліся сапраўды па братняму і таму застаўся ў мяне сапраўды сьветлы ўспамін пра Шэфа-Праваднікa СБМ, мабыць пра яго часта буду яшчэ згадваць...

Не магу прамаўчаць, што ў той час я найбольш зблізіўся з беларускім сябрам, шэфам-праваднікам Ганько. Яднала нас тады супольная доля, што вымагала найбольшай чуласьці. Гаварылі мы і разважалі шмат, плануючы нашу работу, для якой мелі такія вялікія магчымасьці.

У Бэрлін я прыехаў на 2 дні перад лацінскімі вялікоднымі сьвятамі і спыніўся на Ванзэе. Зрабілі мне там неспадзяванку беларускія сябры, што былі рыма-каталікамі й запрасілі на сваю ваяцкую пісанку дня 1 красавіка. Сам беларускі Шэф-праваднік Саюзу Беларускай Моладзі быў праваслаўнага веравызнаньня, а я грэка-каталік і нашыя сьвяты былі толькі праз 5 тыдняў, але пастанавілі мы адбыць тую вялікодную пісанку разам, нібыта адчуваючы, што ўжо хутка давядзецца нам разлучыцца. І сапраўды, пасьля таго п. Ганько выехаў з Бэрліна да Прэзыдэнта праф. Астроўскага і ўжо больш не вярнуўся. Даў мне перад тым перачытаць гісторыю арганізацыі беларускай моладзі, што была адным актам абвінавачваньня для немцаў. Гэта было характэрна, што народы, якім немцы далі пэўнае самакіраваньне, як беларусы, што мелі сваю Цэнтральную Раду, ці напр. латышы, што мелі таксама свой самастойны ўрад, абодва гэтыя народы мелі дазволеныя немцамі арганізацыю моладзі, усёж такі іх доля была такая ж, як і наша, хоць мы ня мелі ніякага самастойнага адміністрацыйна-палітычнага воргану, а ўжо зусім ня мелі дазволу на якуюсь арганізацыю моладзі. Вось як мы, так і яны, хаця здавалася яны павінны быць у лепшым становішчы, сустрэліся з боку немцаў з тымі ўсімі перашкодамі ў працы, былі трактаваны як нешта менш вартае, прызначанае толькі на выкарыстаньне, а то й на зьнішчэньне.

**Тамаш Беластоцкі** (Камбатант)
Пераклад Андрэя КРАЎЦОВА

## Канфіскаваны Пазьняк...

24 верасня беларускія памежнікі ў Брэсце канфіскавалі 50 асобнікаў часопіса «Беларускія ведамасьці» і дзве кніжкі з вершамі і фотаздымкамі Зянона Пазьняка «Глёрыя Патрыя» ў Мікалая Анцыповіча, актывіста сойму Кансерватыўна-хрысьціянскай партыі-БНФ.

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар партыі Валерый Буйвал, сп. Анцыповіч вяртаўся ў Беларусь з Варшавы, дзе ён наведваў Зянона Пазьняка, які апошнія 5 гадоў знаходзіцца ў эміграцыі. «Беларускія ведамасьці» — часопіс, які выдае сп. Пазьняк.

У тэлефоннай размове з карэспандэнтам БелаПАН, лідэр Кансерватыўна-хрысьціянскай партыі-БНФ сказаў, што ён быў крыху здзіўлены тым, што кніжка з ягонымі вершамі і фотаздымкамі трапіла ў спіс літаратуры, «не подлежащей перевозу» праз мяжу, пра што памежнікі заявілі сп. Анцыповічу. «Я думаю, яны проста распачалі паляваць на маё імя», — сказаў сп. Пазьняк.



# ВІТАЛЮ КАЖАНУ НА 85-Я ЎГОДКІ



9 кастрычніка сёлета сп. Віталю Кажану споўнілася 85 год жыцьця. З гэтае нагоды хачу сказаць колькі словаў пра гэтага выдатнага суродзіча.

Калі вымяраць жыцьцё чалавека, у дадатак да патрыятызму, меркаю ягонае працоўнае дысцыпліны й акуртанасьці, дык да ліку чэмпіёнаў трэба ў першую чаргу залічыць сп. Кажана. Ён -- сваеасаблівы рэкардсмэн: ад кастрычніка 1949 году – гэта ўжо 52 гады! – выконвае абавязкі Скарбніка Рады БНР. З году ў год, як руплівая пчала, сп. Кажан збірае ў скарбніцу Рады так патрэбныя грашовыя фонды. Зь іх карыстае ня толькі Рада БНР. Ці раз давалася дапамога з касы Рады й іншым арганізацыям, у тым ліку Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню ды Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва.

Сп. Кажан, былы афіцэр – чалавек нязвычайнай працавітасьці. Былі гады, калі ён, каб забясьпечыць дзецям вышэйшую асьвету, мусіў працаваць на дзвюх працах. Але гэта ніколі не адбівалася адмоўна на выконваньні ягонага абавязку перад Радай БНР – рассыланьні па цэлым беларускім сьвеце падпісных лістоў на “Дар Сакавіка” ды напамінаў радным аб іхных залегласьцях. Работа гэтая вымагае вялікай арганізаванасьці: трэба трымаць і стала абнаўляць адрасную картатэку, акуратна весьці касавыя кнігі, сваечасова адказваць на запыты, сачыць за разасланымі падпіснымі лістамі. Кожны год – гэта сотні а сотні разасланых канвэртаў, якія трэба заадрасаваць, наклеіць маркі, у час здаць на пошту. Мала таго, сабраныя грошы трэба ўмець улякаваць у такім банку, дзе нарастаюць максымальныя працэнты. Усё гэта выглядае на шэрую работу, але сп. Кажан выдатна разумее ейнае вялізарнае значэньне, і дзякуючы такому разуменьню ён, як запраўдны падзьвіжнік, вядзе справу фінансаў Рады БНР ужо больш як поўстагодзьдзя. На кожнай сэсіі Рады БНР сп. Скарбнік бярэ ўдзел у як найлепшай форме: дае дакладную фінансавую справаздачу й адказы на ўсе зьвязаныя зь ёй пытаньні.

Сп. Віталю Кажану спрыяе й дапамагае ў ягонай вялікай грамадзкай працы сям’я: жонка Люба й дзеці Ларыса, Аўген, Маргарыта й Юля зь сем’ямі. Гэтая акалічнасьць, думаецца, ці мала дадае да заўсёднае энэргіі сп. Кажана, зь якою ён ставіцца і да сваіх грамадзкіх абавязкаў, і да беларускае нацыянальнае справы наагул, якою інтэнсыўна цікавіцца й якую актыўна падтрымвае. Дастойнаму юбіляру на ягоныя 85-я ўгодкі працавітага жыцьця ды ягонай сям’і хочацца выказаць глыбокую падзяку за самаахвярнасьць ды шчырыя пажаданьні добрага здароўя і ўсякае памыснасьці. Гледзячы на такіх людзей, лягчэй вымаўляць “Жыве Беларусь!”

**Янка Запруднік**

# САКРАТУ ЯНОВІЧУ— 65!



Свае 65-я ўгодкі народзінаў Сакрат Яновіч сьвяткаваў 4-га верасьня ў сябе дома на Беласточчыне. Ведамы пісьменьнік і публіцыст, — ягоныя творы перакладаліся і публікаваліся, між іншым, на мовы ангельскую, нямецкую і італьянскую. Пераважна піша па-беларуску і па-польску.

Сакрат зьяўляецца публіцыстам беларуска-польскага месячніка “Часопіс”. З групаю сяброў утварыў Таварыства Villa Sokrates. Штогод арганізуе “Трыялёг Беларускі” — гэта сустрэча перакладчыкаў і дасьледнікаў беларускай літаратуры. Таксама рэдагуе гадавік “Год Беларускі”.

Выдатнаму юбіляру на ягоныя 65-я ўгодкі надзвычай працавітага жыцьця ды ягонай сям’і выказваем шчырыя пажаданьні добрага здароўя і ўсякае памыснасьці.

Сто Год з гакам Табе Сакраце!

# Маладафронтаўцы бароняць Курапаты

**Маладафронтаўцы арганізавалі кругласутачнае дзяжурства ва ўрочышчы Курапаты. Тэхніка “Белгіпрадора” - арганізацыі, што праводзіць будаўнічыя работы - пачала пляжыць зямлю і памятныя знакі на адлегласьці 50 мэтраў ад дарогі.**

Было ўсталявана восем крыжоў упоперак фронту працы. Маладафронтаўцы сталі жывым ланцугом і не далі бульдозэру зруйнаваць іх. Будаўнікі выклікалі міліцыю. Але тая паглядзела ды хутка зьехала ад граху далей. На ноч быў пастаўлены намёт, каб будаўнікі не маглі рабіць сваю працу ўначы.

Зранку жыхары сумежных мікрараёнаў падыходзілі да маладафронтаўцаў і выказвалі спачуваньне й абурэньне, што кальцавая дарога вядзецца менавіта праз Курапаты. А 9-й гадзіне раніцы зьявіліся будаўнікі з тэхнікай, але маладафронтаўцы зноў не далі прайсьці ва ўрочышча. Увесь час там курсавалі міліцыянты й высокія абласныя чыны, а таксама кіраўніцтва “Белгіпрадору”. Размовы былі стандартныя: “У нас загад”. Але маладафронтаўцы нагадвалі, што загад быў і тым, што стралялі людзей у гэтым месцы 60 гадоў таму. Зьбянтэжаныя чыноўнікі паехалі раіцца з начальствам.

Нацыянальны супраціў у Курапатах працягваецца!

## НОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАНЬНІ...

**Мы атрымалі наступныя выданьні:**

1. **Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны месячнік у Польшчы. № 9. Беласток, 2001. 48 бач.
2. **Беларуская Думка.** Грамадзка-палітычны і літаратурна-мастацкі часапіс, Нью-Ёрк-Саўт Рывэр, № 49, 2001, 52 бач.
3. **Беларускі Гістарычны Зборнік**, Беларускае Гістарычнае Таварыства, Беласток, Польшча. Кніга 15, 2001, 257 бач.
4. **Nowe Książki.** № 9, 2001. Месячнік. Нумар прысьвечаны Спадару Сакрату Яновічу, Варшава, Польшча, 89 бач.

# Ніл Гілевіч - флягман Адраджэньня



30-га верасьня споўнілася народнаму паэту Беларусі, публіцысту, грамадзкаму дзеячу, абаронцу матчынае мовы Нілу Гілевічу 70 гадоў.

Сямідзясятыя ўгодкі Ніла Гілевіча - падзея значная -- для аматараў роднага слова, для барацьбітоў за лепшы лёс Бацькаўшчыны.

Ніл Гілевіч, знакавая постаць пэўнага пакаленьня людзей, што зьвязалі свой лёс зь беларускім рухам, які ён быў магчымы. Забыцца на Ніла Гілевіча проста немагчыма. Яго імя заўсёды з розных нагод будзе прыпамінацца. Ці з нагоды таго, што ён выдатны дасьледнік беларускае народнае песьні. Ці з нагоды таго, што ён напісаў ці мала добрых грамадзянскіх вершаў. Ці, дапусьцім, з нагоды таго, што ён перакладаў клясыкаў славенскае літаратуры. Ці з нагоды таго, што ён казаў патэтычныя словы на карысьць нашае мовы ў найвышэйшым заканадаўчым органе савецкае й постсавецкае Беларусі.

У апошнія гады Ніл Гілевіч сапраўды вельмі актыўна выказвае сваю грамадзянскую пазыцыю. Вось словы спадара Гілевіча пра магчымасьць кансалідацыі беларускага грамадзтва:

Яднаньне й кансалідацыя можа ісьці толькі на грунце беларускае нацыянальнае ідэі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня. Толькі й не іначай. Іншае альтэрнатывы няма.

Разам з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Валянцінам Тарасам, Артурам Вольскім Ніл Гілевіч належыць да тае невялікае часткі беларускіх пісьменьнікаў сталага веку, якія пасьлядоўна адстойваюць ідэал незалежнасьці краіны.

Застаецца пажадаць здароўя й мужнасьці юбіляру. (Р.Р.)

# *Нам Пішуць...*

Я заўсёды з вялікай цікавасьцю чытаю газэту “Беларускі Дайджэст” і таксама зьяўляюся яе падпішчыкам.

Напэўна шмат будзе напісана пра трагедыю у ЗША... Мае глыбокія спачуваньні для ўсіх людзей пацярпеўшых ад гэтага тэрарыстычнага акту. Амэрыка як калыска сусьветнай дэмакратыі заўсёды давала падтрымку і прытулак людзям зьведаўшым прасьлед ад тыраніі, ў тым ліку і беларусам.

Калі цяпер ідзе гаворка пра цясьнейшую супрацу Амэрыкі з Расеяй, то я бачу ў гэтым вялікую памылку, бо Расея гэта выкарыстае на сваю карысьць, на далейшую экспансію свае імпэрыі. Апошнія выбары прэзыдэнта Беларусі паказалі, што яны былі сфальшаваныя і гэта сталася з падтрымкай Расеі. Лукашэнка без падтрымкі Расеі ня мог-бы існаваць, так як Бін Лядэн ня мог-бы існаваць без падтрымкі Тэлебану... Лукашэнка ў мінулым няраз выказваўся, што ён ёсьць прыхільнікам палітыкі тэрору Сталіна, Гітлера, Садам Гусэйна і Мілошэвіча... Я-б нават ня зьдзівіўся, калі-б Лукашэнка даў прытулак і сховішча Бін Лядэну ў Беларусі...

Пры гэтым перасылаю ахвяру на выдавецкі фонд газэты.

З пашанай, *М. Баяроўскі* (В. Брытанія)




**Паважаныя чытачы “Беларускага Дайджэсту”! Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыяднаўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**